© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 3 (111) ◈ 20 студзеня 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці. (Па падпісцы — 80 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***КІТАЙ НАВЕДАЛА БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ** на чале са Станіславам Шушкевічам. У час візіту быў падпісаны шэраг дакументаў, якія паслужаць далейшаму развіццю ўзаемавыгадных адносін паміж РБ і КНР.*

●

**ДРУГІ ТЫДЗЕНЬ ПА БЕЛАРУСКІМ ТЭЛЕБАЧАННІ** ідуць паўгадзінныя трансляцыі (пачатак у 18 гадзін 30 хвілін) навін тэлекампаніі Бі-бі-сі. Уся інфармацыя падаецца ў перакладзе на беларускую мову.

●

***У СТУДЗЕНІ СПАЎНЯЕЦЦА 130 ГАДОЎ** з пачатку паўстання 1863—1864 гадоў, якое з'яўляецца адной з найбольш значных падзей XIX стагоддзя на Беларусі.*

●

**13 СТУДЗЕНЯ Ў БЕЛАРУСІ АДЗНАЧАНЫ 400-ЫЯ ЎГОДКІ** з дня смерці гуманіста і асветніка, тэолага і рэлігійнага рэфарматара, філосафа, гісторыка, філолага і паэта Сымона Буднага. ЮНЕСКА абвясціла 1993 год годам Сымона Буднага.

●

***МІНІСТЭРСТВАМ ЮСТЫЦЫІ ЗАРЭГІСТРАВАНЫ** Беларускі рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ (фонд імя Льва Сапегі).*

●

***НЯДАЎНА КАНАДЗЕЦ БЕЛАРУСКАГА ПАХОДЖАННЯ ГРАФ АЛЯКСАНДР ПРУШЫНСКІ ЗАЯВІЎ**, што збіраецца выставіць сваю кандыдатуру на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Граф Прушынскі з'яўляецца грамадзянінам Польшчы і Канады і ўжо падаў дакументы на атрыманне статуса грамадзяніна нашай краіны.*

●

Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Аршанскага раёна зняло з уліку бюсты Фрунзе, Чапаева, Дзяржынскага, Куйбышава і каля дзесяці бюстаў Леніна, якія не маюць архітэктурнай і мастацкай каштоўнасці.

**Няма мовы, няма і нацыі** — Стар. 2 – 3

◆◆◆◆

***Лепш бы мяне адразу застрэлілі*** — Стар. 4

◆◆◆◆

**АДВАЖЫЛІСЯ, НАРЭШЦЕ!** — Стар. 6

## ЗАЎСЁДЫ БУДЗЕМ САЛІДАРНЫЯ З ВАМІ

Дэлегаты II з'езда Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады звярнуліся з заявай да Сходу беларусаў блізкага замежжа, які адбыўся 19—20 снежня 1992 года. У ёй гаворыцца: «Беларускія сацыял-дэмакраты будуць настойваць на тым, каб інтарэсы беларускай нацыянальнай меншасці ў блізкім і далёкім замежжы заўсёды ўлічваліся пры выпрацоўцы знешняй палітыкі Беларусі на блізкую і аддаленую перспектыву, каб духоўныя набыткі беларусаў замежжа з'яўляліся састаўною часткаю культуры Беларусі.

Жадаем вам, дарагія сябры, плённае працы. Мы спадзяёмся, што арганізацыі беларусаў блізкага замежжа стануць моцнымі і здолеюць паспяхова бараніць правы і свабоду суродзічаў. Мы, сацыял-дэмакраты, заўсёды будзем салідарныя з вамі».

● ● ● ● ●

## Беларуская мова знаходзіць свой ужытак і ў вартавых дзяржаўнай мяжы

**Як паведамілі з прэс-цэнтра Галоўнага ўпраўлення пагранічных войск Рэспублікі Беларусь, для вартавых границы набываецца мовазнаўчая літаратура, падручнікі, слоўнікі. З лютага 1993 года на кожную заставу, у кожнае падраздзяленне будзе прыходзіць газета «Наша слова».**

**А. К.**



НА ЗДЫМКУ: на сцэне Дома літаратара. У гонар Першага сходу беларусаў блізкага замежжа выступае калектыў моладзі беларусаў з Польшчы.

**Фота Авяніра КАЛОДКІ.**

## *Бацькі мудрэй,—*

### *падумаў я, пачуўшы некаторыя лічбы на калегіі Міністэрства народнай адукацыі РБ*

Колькі заклікаў, пагроз, ужо не кажучы пра звычнае ганьбаванне нашай мовы на старонках газет, на радыё і тэлебачанні абрынулася на маладых маці і бацькоў напярэдадні 1992—1993 навучальнага года! Асабліва стараліся ў Гомелі, дзе нават некаторыя выкладчыкі універсітэта імя Ф. Скарыны не толькі агітавалі супраць беларускамоўных першых класаў, але і пагражалі. Бацькі ж паказалі сябе мудрэйшымі. Яны вырашылі вярнуць сваім дзецям мову іх дзядоў. І не толькі ў Гомелі, дзе за згодай бацькоў 48 гарадскіх школ (з 64) маюць сёлета толькі беларускамоўныя класы. У гэтым навучальным годзе, як сказала ў дакладзе намеснік міністра Л. К. Сухнат, 68,5 працэнта першакласнікаў рэспублікі пачалі навуку на роднай, беларускай мове. Тры гады таму, калі прымаўся Закон аб мовах, іх было ў два з паловай разы менш, а, прыкладам, у Оршы — толькі 0,2 працэнты. Цяпер жа там 90 працэнтаў першакласнікаў займаюцца ў класах з беларускай мовай навучання. Толькі такія класы ўтвораны ў Ваўкавыску, Жабінцы і Навагрудку.

Разумна і сур'ёзна аднесліся да адраджэння нацыянальнай адукацыі і нацыянальнай школы ў Менскай, Гродзенскай і Брэсцкай абласцях, дзе вышэй згаданы паказчык мала меншы: 86,5; 82 і 76 працэнтаў адпаведна. А вось менчукам ды іх калегам з Магілёўшчыны і Віцебшчыны няма чым хваліцца: 48,3; 53 і 58,1 працэнтаў беларускамоўных першакласнікаў.

У рэспубліцы сёння 63,4 працэнта школ з беларускай мовай навучання, 28,6 працэнта двухмоўных і 8 працэнтаў школ, дзе вучацца і размаўляюць толькі па-расійску. На жаль, сюды трапілі і школы новага тыпу: 16 ліцэяў і 44 гімназіі. Толькі Барысаўская, Асіповіцкая і Маладзечанская гімназіі — беларускамоўныя.

Марудна вяртаецца беларуская мова ў дашкольныя дзіцячыя ўстановы. Цяпер 51,6 працэнта дзетак выхоўваюцца ў беларускамоўных садках і групах (тры гады таму — 20,2), у тым ліку і ўсе маленькія грамадзяне дзесяці раёнаў рэспублікі ды гарадоў Дзяржынск, Слуцк, Вілейка.

Не адбылося карэнных змен у сістэме прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Толькі ў Жыткавіцкім ПТВ-182 усе агульнаадукацыйныя і грамадазнаўчыя дысцыпліны выкладаюцца на беларускай мове ды ў Карэліцкім ПТВ-125 (на першым курсе) і ў Менскім ПТВ-32 прадаўцоў кніг.

Пачалі нешта рабіць і асобныя вышэйшыя навучальныя ўстановы, але, паводле слоў Л. К. Сухнат, сітуацыя з мовай у ВНУ выключна дрэнная. Ёсць пэўны вопыт у БДУ, на роднай мове чытаюць некаторыя курсы ў Гродзенскім універсітэце імя Янкі Купалы ды жменька энтузіястаў у іншых ВНУ.

А што ў іншых «кузнях педагагічных кадраў»? Некаторыя адмоўныя прыклады падалі выступаючыя. Вось у Мазырскім педінстытуце нават суполка ТБМ толькі нядаўна прызнана, у Віцебскім — некаторыя выкладчыкі варожа ставяцца да беларусізацыі і правялі збор подпісаў (!) фактычна за адмену Закона аб мовах.

Цалкам верагодна, што ў бліжэйшы час рэспубліка не атрымае маладых педагогаў, якія б на высокім прафесіянальным узроўні і па-беларуску выкладалі свае прадметы. А праз тры гады яны спатрэбяцца для 68,5 працэнта сёлетніх першакласнікаў. Ды ўжо сягоння палова ўрокаў у чатырох шостых і семнаццаці пятых беларускамоўных класах менскіх школ, як сказаў старшыня Менскага гарадскога камітэта бацькоў вучняў беларускамоўных класаў Алесь Шамак, вядзецца на расійскай мове. А ў наступным годзе ў такой сітуацыі апынуцца вучні 56 школ. Ён прасіў Міністэрства зрабіць канкрэтныя захады.

А некаторыя выступаючыя гаварылі, што студэнты ахвотна пайшлі б у беларускамоўныя групы.

Л. К. Сухнат крытыкавала сістэму перападрыхтоўкі кадраў, таму што значная частка заняткаў вядзецца там на расійскай мове. Яна згадала, што нядаўна гутарыла са слухачамі курсаў Рэспубліканскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў, якія сказалі, што за месяц вучобы яны амаль не чулі беларускага слова. І сапраўды, з 3693 гадзін заняткаў там толькі 227 (!) планавалася праводзіць на беларускай мове.

**П. ПАШКАВЕЦ.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# НЯМА МОВЫ,

## *Пісьмы студэнтаў філалагічнага*

*Падборка, якую мы прапануем чытачам,— гэта водгук студэнтаў V курса філалагічнага факультэта БДУ на прапановы некаторых дэпутатаў беларускага парламента ўвесці ў незалежнай і суверэннай Беларусі дзяржаўнае двухмоўе. Гэта водгук на выступленне Старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Гілевіча Н. С. на сесіі Вярхоўнага Савета, водгук на Зварот Рады ТБМ. Гэта, зрэшты, падтрымка пазіцыі газеты «Наша слова».*

*...Калі ў рэдакцыі папярэдне чыталі студэнцкія лісты-звароты ў Вярхоўны Савет, узнікалі розныя пачуцці. Наймацнейшае і самае шчырае з іх — стаць на калені перад выявай Божай Маціzаступніцы і прасіць у яе для гэтых сумленных маладых людзей больш шчаслівага лёсу, чымсьці мела старэйшае пакаленне, нацыянальны гонар і годнасць якога свядома вытручваліся і зневажаліся манкуртамі, пакаленне, з якога хацелі зрабіць філалагічных прыстасаванцаў і двурушнікаў з вывіхнутай свядомасцю і мараллю.*

*Старэйшае пакаленне па-добраму зайздросціць новай генерацыі студэнтаў, таму, як годна і высока ўзыходзіць зорка іхняга духоўнага лёсу. Так думаць і гаварыць могуць толькі вольныя людзі на вольнай зямлі — БЕЛАРУСЫ.*



Паважаныя дэпутаты!

Хоць завадатары варыянта дзвюх дзяржаўных моў спасылаюцца на вопыт некаторых замежных краін, дзе дзейнічае двухмоўе, яны забываюць, што ў гэтых краінах ішоў працэс раўнапраўнага развіцця, а не амаль што сямідзесяцігадовая дыскрымінацыя ў сферы мовы.

Так, руская мова на Беларусі шырока распаўсюджана, але гэта парадокс і ненармальнасць, якія былі параджэннем антычалавечай сацыяльнай сістэмы. І цяпер, калі Беларусь абвешчана незалежнай рэспублікай, гісторыя дае нам, мабыць, апошні шанц адрадзіць нацыянальную мову і культуру. І грош цана ўсім нам, калі гэты выдатны шанц не будзе выкарыстаны. Амбіцыі былых наменклатуршчыкаў выклікаюць такую сітуацыю, калі сама нацыя будзе пастаўлена на край гібелі, бо відавочна ісціна: «Няма мовы, няма і нацыі». А як жа можна дапусціць, каб канулі ў Лету, у небыццё мова, а з ёй і нацыя, да якой належаць Скарына, Будны, Багдановіч, Каліноўскі, Купала, Багушэвіч, Караткевіч і іншыя!

Няўжо нельга нарэшце зразумець, што мы не «Северо-Западный край» і не «Крэсы ўсходнія», а самабытная, працавітая, сумленная, хоць, мабыць, залішне талерантная Беларусь, незалежная Рэспубліка Беларусь ! Чаму ж мы ўвесь час павінны аглядацца на «старэйшага брата» — Расію? У такім разе можна абвясціць сябе яшчэ адной рэспублікай у складзе Расійскай Федэрацыі, што фактычна і зробіць наш парламент, калі прыме рашэнне пра рэферэндум. Пры такім раскладзе беларускай мове ўгатаваны лёс палабскай ці кашубскай, а нацыі — лёс пахаванай.

Дык няўжо, паважаныя дэпутаты, Вы збіраецеся сваё рашэнне правесці ў жыццё? Рэферэндум, асабліва, калі пытанне пастаўлена некарэктна, не з'яўляецца адзіна правільным крытэрыем, не заўсёды адлюстроўвае ісціну (успомнім рэферэндум па пытанні: быць ці не быць СССР).

На мой погляд, адзінаю дзяржаўнаю мовай Рэспублікі Беларусь абавязкова павінна быць БЕЛАРУСКАЯ МОВА.

Правядзенне такога рэферэндуму — здрадал ў адносінах да свайго народа.

**Віктар Якжык,**
**студэнт V курса**
**беларускага аддзялення**
**філалагічнага**
**факультэта БДУ.**

Паважаныя народныя дэпутаты!

Я і многія мае сябры звяртаемся да вас з мальбою: адумайцеся! Не дайце, з вашай нямой згоды, знішчыць адзіную родную мову свайго народа. Хай кожны з вас падумае, ці згодны ён паўтарыць гісторыю біблейскага Пілата, з чыйго маўчання аддалі на смерць Хрыста.

Лёс быць раскрыжаванай чакае і нашу мову, калі не захаваць за ёй права быць адзінай дзяржаўнай. Вы ўсе выдатна бачыце вынікі так званай русіфікацыі. Дык дайце ж цяпер мове свайго народа ўздыхнуць на поўныя грудзі!

Чалавек, які адракаецца ад сваёй мовы, адракаецца ад свайго народа, яго гісторыі і традыцый, адракаецца ад сябе самога.

Паважаныя дэпутаты! На незалежнай Беларусі павінна быць адна дзяржаўная мова — беларуская!

**Васіль Манько,**
**беларус, студэнт V курса**
**філалагічнага факультэта БДУ.**

Шаноўныя народныя абраннікі!

Перад вамі стаіць пытанне не толькі аб дзяржаўнасці роднай і родснай моў. Перш за ўсё гэта абранне далейшага шляху развіцця **нашай** радзімы і народа ў цэлым. Перш чым зацвердзіць дзяржаўнасць і рускай мовы, падумайце, ці не згубімся мы ў вялікай рацэ рускамоўных? Нават зараз руская мова пераважае ва ўсіх сферах ужытку. Толькі Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы трохі стрымлівае поўнае абрусенне.

Не для ўсіх і не адразу беларуская мова адчуецца роднай. Але не тушыце кволы агеньчык жадання адчуць сваю беларускасць. Не саступайце з намечанага кірунку. Падумайце пра сваіх нашчадкаў, можа, ім захочацца не проста беларусамі звацца?.. Ці не здарыцца так, што Беларусь, беларусы і беларуская мова застануцца толькі ў эміграцыі?!

**Ганна Лыч,**
**студэнтка V курса**
**філфака БДУ.**

Шаноўныя дэпутаты!

Адзінае годнае памкненне чалавека смяротнага — памкненне духу. Гэтае памкненне дае чалавеку больш радасці і ўсведамлення недарэмнасці жыцця, чым паяданне кілбасы і піццё гарэлкі. Нашыя людзі, як сляпыя кацяняткі, тычуцца ў яго. Вы ж кіруеце імі, сумняваюся, што ваша сумленне не ўказвае вам правільны шлях. Вярніце, дапамажыце вярнуць нацыі душу, мову, не прычыняйце дзверы Адраджэнню чалавечага духу! Мы можам казаць, што іншыя культуры (расійская) таксама ў стане несці чалавеку асалоду і карысць. Але ўсё пачынаецца з роднага, са свайго. Чужы агонь саграваe рукі, а сэрцы пакідае ў холадзе.

Вялікая адказнасць — вырашыць лёс беларускай будучыні. Дзяржаўнасць расійскай мовы (мачахі) калі не загубіць, дык замарудзіць на няпэўны час жыццё нашага народа ў сусветным існаванні. Ці зможаце вы забіць яго, ці маеце на гэта права? Калі гэтае пытанне вы не зможаце вырашыць правільна, рашэнне ўсіх астатніх не мае сэнсу...

Дапамажы Вам Бог!

**Алеся Манько,**
**студэнтка БДУ.**

Паважаныя дэпутаты!

Вялікая да Вас просьба — не трэба больш спрэчак і разважанняў. Нават малому дзіцяці зразумела, што нам патрэбна тая мова, на якой размаўлялі нашы продкі, на якой размаўляем з дзяцінства мы. Звярніце ўвагу на суседнія краіны. Літоўцы, латышы, грузіны — усе гавораць на сваёй мове, бо маюць яе. Не дайце загінуць роднаму слову, тым больш, што ў гэты час яно набірае моц і адраджаецца!

**Алена Скуматава,**
**студэнтка БДУ.**

Шаноўныя абраннікі, народныя дэпутаты!

Апраўдайце свой тытул народных! Інтарэсы якога народа вы абараняеце ў Вярхоўным Савеце? Напэўна, не ўкраінцаў, не палякаў, не латышоў і не літвінаў. Вы — прадстаўнікі беларускай нацыі. А можа, у гарачых спрэчках вы забыліся, што існуе такая. Ці, можа, прывыклі лічыць, што паслухмяны, пакорлівы, ціхі беларус будзе маўчаць. І прамаўчаў бы. Ды толькі розум жывога чалавека не можа свядома згадзіцца на смерць. Ды і тут бы згадзіцца, каб смерць была ахвярнай, дзеля высокага ідэалу. Памятаеце, як у Ядвігіна Ш.: «Мова — кроў народа...»

Цікава паглядзець на монстра, у жылах якога цячэ замест крыві вада... Якога боскага цуду трэба вымальваць, каб хоць і ў гэтых умовах чалавек застаўся чалавекам?..

**Марына Паляшук,**
**студэнтка V курса**
**філфака БДУ.**

Паважаны Вярхоўны Савет!

Да вас звяртаецца студэнт і настаўнік беларускай мовы і літаратуры. Няхай мой голас не такі значны, няхай ён згубіцца ў моры іншых галасоў, але ён павінен прагучаць.

Паважанае спадарства! Звярніце ўвагу на тое, што вы вырашылі зрабіць. Няўжо вы, узгадаваныя ў беларускіх сем'ях, на беларускіх традыцыях, дазволіце, каб падымалася пытанне аб дзвюх дзяржаўных мовах?

Мы выдатна ведаем рускую мову, яе паэтаў, мастакоў, вучоных, дык дайце ж нам магчымасць ведаць сваю спадчыну, свае вытокі!

**Віктар Пашкевіч,**
**студэнт БДУ, настаўнік**
**126-ай сярэдняй**
**школы г. Мінска.**

Народныя дэпутаты!

Я часта думаю, чаму такі пакутлівы лёс выпаў менавіта маёй роднай беларускай мове? Чаму яе заўсёды хацелі задушыць? Прапанова дзяржаўнасці рускай мовы — гэта выпад супраць беларускага народа, гэта здрада сваёй зямлі, гэта, калі хочаце, здрада самому сабе, прыніжэнне годнасці беларускай нацыі. Нельга дапусціць, каб наш час праклялі нашчадкі. Адумайцеся, народныя дэпутаты!

**Святлана Азаронак,**
**студэнтка БДУ.**

Паважаныя спадары дэпутаты, выбраннікі Беларусі!

Мы, студэнты, як і ўвесь беларускі народ, з увагай слухаем вашы выступленні. Але як прыкра нам чуць, як многія, пагарджаючы роднай мовай, гавораць па-руску.

Той, хто жыве на Беларусі, працуе на Беларусі, есць хлеб беларускай зямлі і лічыць сябе яе патрыётам, не можа забыцца на самае каштоўнае багацце беларусаў — слова Скарыны, Багушэвіча, Каліноўскага, Багдановіча, наша слова. Для беларусаў дзяржаўная мова адна — беларуская. Пагарджаць ёю — звесці ў нябыт цэлую культуру, цэлы этнас, выклікаць абразу і праклёны наступных пакаленняў. Дзеля будучыні нашай не пакіньце беларускую мову, будзьце сапраўднымі выбраннікамі беларускага народа, беражыце яго традыцыі і культуру, і тады за вамі пойдзе народ і зразумее чалавецтва.

**Ірына Шпакоўская,**
**студэнтка V курса**
**філфака БДУ.**

Паважаныя народныя абраннікі!

Прайшло некалькі гадоў, як прыняты Закон аб мовах, беларуская мова мае статус дзяржаўнай. Што ж змянілася за гэты час, якія адбыліся зрухі? У сувязі з гэтым успамінаецца 1988 год, калі я паступала на філалагічны факультэт БДУ... Мы з радасцю і задавальненнем размаўлялі на беларускай мове, мы, ужо студэнты філалагічнага факультэта, не саромеліся размаўляць на ёй у аўтобусах, метро, у кніжных лаўках і тэатрах, таму што ведалі — у мовы нашай вялікая будучыня. Мы верылі ў гэта!

Нам гаварылі аб тым, што краіне патрэбны будуць настаўнікі, якія ведаюць беларускую мову і літаратуру, якія змогуць несці свае веды і любоў да мовы ў шырокую аўдыторыю. Тады мы былі ўпэўнены ў тым, што ўсё вяртаецца «на кругі свае», што беларуская мова, як і калісьці, будзе гучаць усюды без намаганняў і прымусу, таму што яна стане нам проста неабходнай для зносін.

Усе гэтыя гады спрэчкі і размовы вакол беларускай мовы ўсё больш пашыраліся, разгараліся дыскусіі. Сёння яны набылі найвялікшы размах, і гаворка ідзе ўжо не пра адраджэнне беларускай мовы, а пра само яе існаванне.

Народныя дэпутаты!

Мова — гэта не нейкая лялька, з якой можна пагуляць, а потым выкінуць. Гэта **вечнае!** Гэта нашы вытокі, наша гісторыя, наша культура, народная мудрасць. У мове нашай — вопыт пакаленняў...

Чаму зноў і зноў трэба вяртацца да пытання мовы? Чаму не ўзнікае гэтае пытанне на Украіне і ў народаў Прыбалтыкі, у іншых дзяржавах? Чаму яны шануюць свае мовы, захоўваюць іх і берагуць, а мы — не? Таму давайце не будзем марнаваць час на сесіях і пасяджэннях, а выконваць Законы, прынятыя вамі ж!

**Ірына Шалейнікава,**
**студэнтка V курса**
**філфака БДУ.**

Шаноўныя народныя абраннікі!

Я звяртаюся да вашага сумлення, да вашых душ, да вашага сэрца. Не дайце загінуць тым маленькім парасткам нацыянальнага Адраджэння, якія былі пасеяны прызнаннем дзяржаўнасці беларускай мовы! Не штурхайце нацыю да самагубства! Беларусы, якія маюць такую багатую гістарычную і літаратурную спадчыну, не павінны знікнуць! Пашкадуйце сваіх нашчадкаў, дайце ім магчымасць усвядоміць сябе беларусамі. Шлях да гэтага — захаванне адзінай дзяржаўнай **беларускай** мовы. Не прымушайце беларускі народ стаць вандалам і дзікуном у адносінах да сваёй роднай мовы і культуры. Помніце, на вас глядзяць мільёны беларусаў, і іх лёс цяпер у вашых руках!

**Валянціна Лісоўская,**
**студэнтка V курса**
**філфака БДУ.**

Народным абаннікам!

...У маёй маленькай вёсачцы жыццё поўнае, дыхаецца прывольна. Бо жыве ў ёй мая мова, мова маіх бацькоў, маёй бабулі і майго дзядулі. Яна — як жывы струмень. Яна ўсюды: у школе, на вуліцы, у краме, на прыпынку, у суседскай хаце і, канешне, у маёй роднай. І ніхто ёй не пагарджае, ніхто з яе не смяецца, ніхто не аглядаецца сарамліва па баках, сказаўшы беларускае слова. Яно тут сваё, роднае. Без яго немагчыма, як немагчыма без такіх прывычных сялянскіх турбот.

Калі хто скажа, што мая мова не-



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# НЯМА І НАЦЫІ

*факультэта БДУ ў парламент*

прыгожая ці недаўгавечная, я проста пасмяюся ў вочы таму чалавеку. Бо гэты чалавек — дурань. А дурню даказваць — няма карысці. Калі гэты чалавек беларус, мне за яго балюча, крыўдна. Калі ж ён украінец, рускі, латыш ці хто іншы, я яму пасначуваю і, можа, у душы дарую. Але даравацъ беларусу здзек з сваёй роднай мовы не змагу ніколі. Невуку, які не ведае сваёй гісторыі, спадчыны, зусім нельга вырашаць пытанне аб тым, якой мове жыць. Выбар зробіць народ. Той, які захоўвае мову, любіць і даражыць ёй...

Жыве Беларусь! Жыве беларуская мова!..

**Ала Іцітавец,**
**студэнтка V курса**
**філфака БДУ.**

Паважаныя дэпутаты!

Сёння, калі мая вучоба ў БДУ на філалагічным факультэце ўжо амаль за плячыма, усё больш пачынаю задумвацца аб сваёй вартасці, вартасці настаўніка беларускай мовы. Ці патрэбна буду ў гэтым жыцці? Ці ёсць сэнс несці веды пра «мілагучную, родную» беларускую мову ў свет? І сама сабе даю адказ: тое, што выбрала я ў жыцці, неабходна і мне, і людзям. Бо трэба ратаваць беларускую моу, ратаваць не ад нейкага «знешняга ворага», а ад неабдуманых рашэнняў тых, каму народ давераў свой лёс, лёс сваёй Радзімы. Няўжо ў гісторыі Беларусі з'явіцца яшчэ адна чорная дата? Рэферэндум аб дзяржаўнай мове — гэта яшчэ адзін здзек з народа.

Мова — гэта хлеб і вада народа, гэта тое асяроддзе, у якім ён жыве. Яшчэ ніколі я не сустракала беларуса, які не разумее чалавека, што размаўляе на рускай або ўкраінскай мовах. Дык няўжо нас не будуць разумець тады, калі мы будзем гаварыць па-беларуску?

Паважаныя дэпутаты! Зразумейце, што лёс мовы не залежыць ад таго, што ў час рэферэндуму нехта паставіць «за», а нехта «супраць». Бо калі вы і вырашыце паставіць крыж на роднай мове, вы не забароніце народу ДУМАЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ.

**Тацціяна Кацько,**
**студэнтка V курса**
**філфака БДУ.**

Шаноўныя народныя абраннікі!

Ці падумалі вы, што пад прыкрыццём роўнасці двух моў зноў можа пачацца русіфікацыя насельніцтва і ўціск беларускай мовы? Навошта нам дзяліць народ на тых, хто размаўляе па-беларуску, і тых, хто размаўляе па-руску? Нават адно тое, што беларус размаўляе па-руску, заставіце задумацца: дык які ж ён беларус? Мы толькі ўздыхнулі свабодна, дык дайце нам магчымасць уволю напіцца з родных крыніц!

**Ірына Кукоўская,**
**студэнтка філфака БДУ.**

Паважаныя нашы выбраннікі!

Звяртаюся да вас з надзеяй, што вы не дапусціце знішчэння нашай роднай беларускай мовы. Бо прыняць дзве мовы ў якасці дзяржаўных у нашай цяперашняй сітуацыі — гэта значыць свядома вырачыся сваёй. Як можна забіваць душу народа?! Сорамна, крыўдна, балюча перад усім цывілізаваным светам за сваю нацыю. Чым жа мы горшыя за іншых? І няўжо цяпер сваю пакутніцу-мову, якая на працягу гісторыі выцерпела столькі здзеку і ўсё ж захавалася, дайшла да нас ва ўсёй сваёй прыгажосці і мілагучнасці, мы задушым уласнымі рукамі?!

Не, паважаныя, у такім разе мы не маем права «людзьмі звацца». Маці ў чалавека адна, Радзіма адна і мова родная — адна! Толькі наша, беларуская мова, павінна быць дзяржаўнай на Беларусі. Толькі так!

**Ларыса Кудзіна,**
**студэнтка філфака БДУ.**

Народным дэпутатам!

Пытанне аб стане, аб статусе беларускай мовы ўжо шэсць гадоў не сыходзіць са старонак газет, абмяркоўваецца па радыё і тэлебачанні. Тым не менш змен адбылося няшмат, таму я і хачу выказацца па гэтай праблеме.

«Нацыя,— кажа ірландскі пісьменнік Тома Юэвіс,— павінна бараніць сваю мову, болей чым сваю тэрыторыю,— гэта самая надзейная мяжа і граніца. Страціць родную мову і пераняць чужую — гэта найгоршы знак падданства, гэта кайданы на душу, страціць родную мову — гэта смерць, гэта значыць, што ярмо ўелася глыбока».

Мне зразумела, наколькі справядлівыя гэтыя словы.

Я, мабыць, не скажу нічога новага, калі напомню, што без мовы не можа духоўна існаваць нацыя. У ёй адбіваюцца паводзіны і звычаі, традыцыі, вера, гонар. Ці ж не ў сумным становішчы апынуўся беларускі народ пасля жорсткай прымусовай татальнай русіфікацыі і паланізацыі за два стагоддзі? Ці ж не відавочныя змены ў рысах характару і паводзінах беларусаў, якія адракаюцца ад сваёй роднай мовы? Ці ж не бачна, як набываюцца ў першую чаргу самыя чорныя, чужыя адзнакі: мацяршчына, страчваецца працавітасць (асабліва сярод малодшага пакалення), вернасць дадзенаму слову падмяняецца хлуснёй і безадказнасцю, павага да жанчын — цынізмам. Але самае балючае, калі дэнацыяналізаваны беларус выступае супраць роднай мовы.

Імперскія функцыянеры паднялі агалцелую кампанію за наданне рускай мове статуса дзяржаўнай. А якраз рускай мове нічога не пагражае, у яе ёсць свая, самая вялікая этнічная дзяржава ў свеце.

Пад крыкі: «Спачатку накарміце народ!» — ідзе знішчэнне культуры і гісторыі народа. Трэба спыніць гэты працэс. І гэтым павінна займацца не толькі творчая інтэлігенцыя, а, у першую чаргу, наш урад і Вярхоўны Савет. І калі сапраўды Беларусь хоча стаць суверэннай і незалежнай дзяржавай, то мы павінны клапаціцца аб мове.

**Алена Чэрнік,**
**студэнтка філфака БДУ.**

Народным дэпутатам!

У кожнага народа, кожнай нацыі ёсць свая мова, якую яны атрымалі ў спадчыну ад бацькоў і дзядоў. Для нас, беларусаў, такой мовай з'яўляецца беларуская. Чаму ж нас імкнуцца пазбавіць нашай мілагучнай мовы, увесці ў дзяржаве двухмоўе?!

Спыніцеся, людзі! Падумайце! Пазбавіць людзей роднай мовы — гэта тое ж, што і пазбавіць роднага кутка, радзімы. Няўжо мы страцілі пачуццё павагі і любові, спачування і адказнасці? Няўжо ў тых людзей, якія выступаюць за двухмоўе на Беларусі, ніколі не дрыжаў голас, калі яны выказваліся супраць беларускай мовы? Зневажаць мову — значыць зневажаць беларускі народ. Народ, які столькі цярпеў нагарды і здзекаў! Сёння яго ізноў прымушаюць стаць на калені.

Я за беларускую адзіную дзяржаўную мову! Не пазбаўляйце нас магчымасці чуць беларускія песні, спяваць нашым дзеткам беларускія калыханкі, расказваць цудоўныя беларускія казкі.

Вы ж разумныя людзі, дык прымайце разумныя рашэнні! Хоціць спрэчак! Няхай жыве беларуская мова, наш беларускі народ!

**Вольга Клямята,**
**студэнтка філфака БДУ.**

Паважаныя народныя абраннікі!

Родная мова — частка нацыянальнага менталітэту, неад'емны кампанент свядомасці беларуса, а нам прапануюць двухмоўе. Нехта скажа, што мы дарэмна так усхапіліся абараняць беларускую мову ад раўнапраўнага суседства з рускай, маўляў, не патрабуюць жа ад вас выракацца роднай мовы. Хіба не будзе яна мець афіцыяльны статус дзяржаўнай?

Не, мае! Не можа ў нашай старонцы існаваць беларуская мова на адных правах з рускай, бо апошняя заўсёды мела больш правоў і саступаць ніколі не будзе, хаця б па праву мацнейшага. На яе баку і палітыка «цэнтра», які складаецца з людзей ранейшай загартоўкі, і традыцыі, і масавая (усё яшчэ!) псіхалогія.

Таму заклікаю вас: не дайце загінуць нашай спадчыне, «не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» Іначай — чым мы апраўдаемся перад нашчадкамі?!

**Наталля Кісялёва,**
**студэнтка філфака БДУ.**

Шаноўнае спадарства!

Я звяртаюся да вас: не пагарджайце нашай роднай мовай! Зірніце вакол і вы ўбачыце людзей, якія імкнуцца зноў стаць беларусамі, набыць страчаную Бацькаўшчыну.

Беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай ужо некалькі год, але толькі зараз мы пачынаем усведамляць сябе сапраўднымі жыхарамі Беларусі, сапраўднымі ўладарамі яе духоўных багаццяў, нашчадкамі вялікіх продкаў. А што ж будзе ва ўмовах двухмоўя? Зноў ганарлівы погляд з боку «русскіх»? Зноў самазабыццё і самапрыніжэнне? Гэтага не павінна быць!

Я вырасла ў сям'і беларусаў, але зрэдку чула родную мову ў дзяцінстве. І я не хачу, каб з маімі дзецьмі здарылася тое ж. Я не хачу, каб і яны былі абкрадзены духоўна!

**Наталля Ламака,**
**студэнтка філфака БДУ.**

Паважаны Ніл Сымонавіч!

Я поўнасцю падтрымліваю Вас у нялёгкай барацьбе за родную мову. Гэта святая барацьба. У мяне такое адчуванне, што многія беларусы проста не разумеюць, што значыць страціць родную беларускую мову, што значыць увесці ў Беларусі двухмоўе. А гэта значыць — згубіць свой нацыянальны гонар, сваю багатую спадчыну і стаць зноў «окраиной России». А хочацца «людзьмі звацца»! Хочацца мець сапраўдную незалежнасць.

Не трэба праводзіць рэферэндум. Трэба проста выконваць Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы.

**Алена Марчанка,**
**студэнтка філалагічнага**
**факультэта БДУ.**

Паважаныя выбраннікі беларускага народа!

Прыйшоў той час, калі само жыццё ставіць праблему — быць беларусам са сваёй мовай ці забыць пра яе.

Няўжо гісторыя нас не навучыла? Няўжо мы не можам зразумець, **што** неабходна нам дзеля таго, каб быць кімсьці ў гэтым жыцці? Так, усе мы жыхары Сусвету. Мы — мужчыны і жанчыны, мы — бізнесмены, палітыкі, настаўнікі. Але не гэта вызначае нас як супольнасць, якая жыве на тэрыторыі нашай рэспублікі. На Беларусі жывуць не проста людзі, а беларусы. Інакш яна б і не мела такую назву. А беларусы без сваёй мовы — гэта нонсенс. Гэта павінна ўжо быць зразумела вам, вучоныя мужы і палітыкі! Дык дайце ж шанц нам — беларусам. Гэта ж у вашых руках. На вас ляжыць вялікая адказнасць, і не дай жа Бог зрабіць вам памылку!

**Аксана Ракоўская,**
**студэнтка БДУ.**

Шаноўныя дэпутаты!

Вельмі цяжка думаць, што жывеш сярод народа, які можа сам адрачыся ад сваёй жа роднай беларускай мовы, ад сваёй спадчыны. Беларуская мова неабходна нам, каб мець права беларусамі звацца.

Лічу, што беларуская мова ў Рэспубліцы Беларусь павінна быць адзінай дзяржаўнай. Гэта яе законнае права! І лічу, што ў школах проста неабходна стварыць усе ўмовы, каб дзеці з першага класа чулі беларускую мову і размаўлялі на ёй, бо тое, што закладзена з маленства, чалавек праносіць у сваёй душы праз усё жыццё.

Беларуская мова — пяшчотная і мілагучная. Гэта трэба адчуць. Яскравае сведчанне таму — беларуская класіка. Чалавек, які выракаецца роднай мовы, не мае за душою нічога святога!

**Вольга Круціца,**
**студэнтка філфака БДУ.**

Паважаныя народныя дэпутаты!

Сёння мы шмат гаворым пра беларускую нацыю, разважаем пра яе адраджэнне. Але пра якое адраджэнне можа ісці размова, калі нам прапануюць дзве мовы у якасці дзяржаўных?! Нацыя і мова — непадзельныя! Адраджэнне ў сваёй першаснай аснове павінна мець адраджэнне беларускай мовы і беларускай культуры — мовы і культуры нашых продкаў.

Я нарадзілася ў змешанай сям'і: маці ў мяне — руская, бацька — беларус. Але я нарадзілася на зямлі Беларусі і пражыла на ёй 21 год, таму роднай лічу толькі беларускую мову.

Сёння, калі шмат чаго зрушылася з месца і калі я маю такую магчымасць — вывучаць мову, культуру, літаратуру маіх продкаў у БДУ, слухаць і вучыцца ў разумных людзей, калі мы, студэнты, паверылі ў Адраджэнне, нам хочуць прапанаваць двухмоўе. Гэта вялікая памылка, якую потым будзе цяжка выправіць. Ёсць у народа добрая прымаўка: «Разумныя вучацца на чужых памылках, не вельмі разумныя — на сваіх». Не хочацца, каб нам прыйшлося выпраўляць праз 15—20 гадоў вашы памылкі.

Давайце думаць цвяроза! Дзяржаўнай мовай павінна быць толькі беларуская! Вельмі хочацца верыць у тое, што так і будзе. Народ даручыў вам, народныя дэпутаты, лёс нашай будучыні. Не зрабіце непапраўнай памылкі! Мы не супраць рускай мовы, але за дзяржаўную — толькі беларускую!

**Кацярына Каспер,**
**студэнтка БДУ.**

Народныя дэпутаты!

Немагчыма зразумець думкі тых людзей, якія выступаюць супраць роднай мовы. Адмовіцца ад яе — адмовіцца ад бацькоў, дзядоў, усіх сваіх продкаў. Ужо некалькі стагоддзяў беларусам забаранялі размаўляць на сваёй мове, нас нават не лічылі народам.

Ганебна, калі нейкі народ забараняе мову іншага народа, але ў сто разоў жахлівей, калі сам гэты народ паўстае супраць уласнай мовы. Няўжо зараз, калі **Беларусь** — самастойная дзяржава, мы адрачомся ад яе? А менавіта так мы і зробім, калі будзе ўведзена дзяржаўнае двухмоўе. У такім разе нас перастануць лічыць за цывілізаваную краіну, ад нас адвернуцца. Хоціць быць марыянеткамі ў чужых руках! Трэба помніць аб тым, што мы нацыя, народ і маем свой гонар.

Жыве Беларусь!

**Людміла Красніцкая,**
**студэнтка філфака БДУ.**

Паважаныя дэпутаты!

Вялікая просьба да вас — пачніце з сябе! Зрабіце беларускую мову адзінай дзяржаўнай мовай, і беларусы падтрымаюць вас. І будуць беларусы размаўляць і спяваць на сваёй спакон вякоў роднай мове.

Пераконваць вас у тым, што гэта патрэбна, што гэта неабходна Беларусі, лічу лішнім. Гэта трэба разумець, адчуваць, бачыць. За гэта трэба змагацца, што павінна стаць вашым абавязкам і мэтай.

Вы прадстаўнікі беларускай нацыі — памятайце аб гэтым!

**Людміла Лушчык,**
**студэнтка філфака БДУ.**



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



### Патрыёты маўчаць не схацелі

*Прабачце, добрыя людзі, за магчымыя памылкі, бо прайшло 45 гадоў, як я не пісала на роднай мове. І столькі ж гадоў баліць маё сэрца. Вось дайшлі, нарэшце, весткі і да мяне ў Казахстан пра тое, што «Наша слова» друкуе матэрыялы пра нацыянальна свядомую моладзь з былога Саюза беларускіх патрыётаў , і я хачу расказаць пра свой лёс.*

# *Лепш бы мяне адразу застрэлілі*

У 1945 годзе я паступіла вучыцца ў Глыбоцкае педагагічнае вучылішча. Было вельмі дрэнна з папераю. Студэнты пісалі хто на чым. Аднекуль прывезлі вялікі стос архіўных дакументаў, дзе адваротная старонка была чыстай. Змест дакументаў быў самы разнастайны. І вось аднойчы мой сусед па парце Васіль Мядзелец знайшоў дакумент, у якім нейкі небарака не змог вызначыць — хто ён. У графе аб нацыянальнасці было запісана: «тутэйшы». Амаль як у Янкі Купалы, чыя п'еса пра тутэйшасць была строга забаронена. Сталі з сябрамі гэта абмяркоўваць, расхваляваліся. Думаю, тая размова, тое адчуванне бездапаможнасці, а разам і спачуванне свайму народу, сталі асноўным пабуджэннем для стварэння патрыятычнай суполкі. Мы ставілі сабе мэту садзейнічаць павышэнню нацыянальнай свядомасці людзей — праз дакладнае веданне ўласнай гісторыі, сімволікі і культуры.

Крыху пазней адбылося аб'яднанне Глыбоцкай і Пастаўскай груп пад назвай Саюз беларускіх патрыётаў. Мы прысягалі на вернасць беларускаму народу, абяцалі працаваць на тое, каб ён змог стаць гаспадаром сваёй зямлі. Пра нейкія злачынныя ці тэрарыстычныя акты нават размовы не было. А на нас усчалі паляванне, як на самых небяспечных злачынцаў!

Мяне арыштавалі ў 1947 годзе ў канцы зімы. Я была ўжо замужам і чакала дзіця, таму ўвогуле ніякай актыўнай дзейнасцю не займалася. Кадэбісты схапілі мяне і павезлі ў Паставы. Там кінулі ў нейкае сутарэнне з земляной падлогай, дзе ля выхаду канваіры сядзелі ля вогнішча. Я замярзала, але яны не дазволілі нават наблізіцца да агню. Раніцай допыт, знявагі. Потым адвезлі ў менскую турму. Там таксама бясконцыя допыты і здзекі, імкненне растаптаць маральна. Нарэшце, 20 чэрвеня 1947 года закончыўся гэты фарс, які называецца судовым працэсам. Імем СССР выносяць прысуд. Мне — 10 гадоў пазбаўлення волі і ў дадатак 5 год паражэння ў правах. А ў мяне якраз пачаліся родавыя схваткі. У лазарэце менскай турмы і нарадзіўся мой сынок. Загарнулі ў анучы, усунулі ў рукі і хворую этапам у турэмную калонію «Матери и ребенка» ля станцыі Хальч Гомельскай вобласці. Я была ледзьве сама жывая, малако прапала, а дзіця цягнецца да пустых грудзей і ціхенька плача ад голаду. Сынок пражыў так 4 месяцы і 15 дзён і сканаў на маіх руках. Вось гэта і была самая страшэнная для мяне кара! Калі б я ведала, што так будзе, я яшчэ ў часе допытаў наклала б на сябе рукі ці кінулася б на канваіраў, каб застрэлілі з яшчэ ненароджаным дзіцем. А так я 135 начэй і дзён глядзела ў вочкі сыночка, які канаў ад голаду. І гэта было ў краіне «счастливого детства». Так, мёртвым, сынок мой застаўся на Радзіме. А мяне, як і іншых матакнявольніц, пахаваўшых у лагеры дзетак (паміралі кожны дзень) пастроілі і пагналі пешкі ў Гомель. Мы ўсе ішлі моўчкі і ўвесь час азіраліся ў той бок, дзе ў роднай зямлі пакінулі самае дарагое — часцінку свайго сэрца.

Потым Аршанская перасылка, а адтуль у закратаваных вагонах на поўнач Расіі. І вось тайга. За 9 кіламетраў ад лагернай зоны трэба ісці і пілаваць лес. Норма — 9 кубоў на дзвюх жанчын — спілаваць уручную дрэва, раскрыжаваць на двухмятровае бярвенне і скласці ў штабель. За гэта давалі «пайку» — 600 грамаў хлеба. Не выканаеш — пакараюць голадам. Жанчыны былі хоць і маладыя, але хутка слабелі. Перыядычна медработнікі праводзілі селекцыю і зусім слабых накіроўвалі ў Абезь, дзе была лагерная бальніца. Я там доўга ляжала, а потым мяне накіравалі шыць вопратку для зняволеных.

Потым з поўначы павезлі ў іншым напрамку — на поўдзень, у Карагандзінскі лагер (Карлаг). Там, нарэшце, без усякіх тлумачэнняў вызвалілі. Далі спраўку з дазволам ехаць дадому. Гэта было ў 1956 годзе.

Але на Беларусі мяне не вельмі чакалі. Нідзе не бралі на працу. Карміў стары бацька-настаўнік. У райана яго папракалі: твая дачка — вораг народа. І давялося мне пакінуць мілую Радзіму і зноў вярнуцца ў Казахстан. Тут я знайшла сардэчных людзей, працу. Выйшла замуж за рускага, нарадзіла дзвюх дзяўчынак. Яны выраслі, атрымалі вышэйшую адукацыю. Маю трох унукаў. Здаецца, усё, як у добрых людзей. Але мінулае, як і сыночка свайго, не магу забыць. Такая мая плата за жаданне свабоды для роднай Беларусі. Мы былі такія маладыя, такія чыстыя сэрцам! Спадзяюся, што хоць перад смерцю (хто яшчэ жывы) мы, нашы дзеці і ўнукі пачуем, што сябры Саюза беларускіх патрыётаў не былі ворагамі народа і здраднікамі Радзімы і што яны не дарэмна прайшлі свой цяжкі жыццёвы шлях.

**Людміла КРАСНАДУБСКАЯ.**
с. Акыча,
Казахстан.

# «Столькі дэлегатаў не было больш нідзе»

***Павольна, але ўсё-такі вяртаюцца нашаму народу старонкі яго слаўнай гісторыі. Зусім нядаўна ўпершыню шырока адзначаліся 72-ія ўгодкі Слуцкага збройнага чыну, нават згадваць пра які было забаронена. А тут надышла яшчэ адна значная дата: 75 гадоў таму ў Менску пачаў работу ды неўзабаве быў разагнаны І Усебеларускі Кангрэс. Няшмат пакуль што могуць сказаць навукоўцы пра гэты зрух беларусаў, бо толькі нядаўна сталі даступнымі архівы.***

З прапановы Камісіі па культуры і гісторыі БНФ «Адраджэньне» сабраліся ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» напярэдадні Новага года гісторыкі, літаратуразнаўцы і выкладчыкі, каб за «круглым сталом» падзяліцца ведамі пра Кангрэс і пазначыць накірункі пошуку дакументаў.

Размову паведамленнем пра работу Кангрэса распачаў гісторык Віталь Скалабан... На 15 снежня 1917 года з'явіліся 1872 дэлегаты, з іх — 1167 мелі права вырашаючага голасу. Гэта былі прадстаўнікі вёсак і гарадоў, Саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, войска, палітычных партый і розных камітэтаў. Нягледзячы на розніцу поглядаў, дэлегаты прыйшлі да згоды: 17 снежня ўвечары пачалося пленарнае пасяджэнне. Панавалі энтузіязм і ўпэўненасць у правасце сваіх спраў. Гістарычнае пасяджэнне ў ноч на 18 снежня пачалося велічна і спакойна. Ніхто і не думаў, што ўжо зусім блізка былі злачынцы, якія замахнуліся на высокі Нацыянальны Сход у самы адказны момант яго дзеяння. Аднагалосна прымаецца першы пункт рэзалюцыі, у якім абвяшчаецца стварэнне са складу дэлегатаў Усебеларускага савета сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў. І ў гэты час менскія бальшавікі перапынілі работу Кангрэса і з дапамогаю салдатаў Першага Менскага рэвалюцыйнага атрада разагналі дэлегатаў, а прэзідыум арыштавалі...

В. Скалабан нагадаў, што напярэдадні з'езда ў газеце «Беларуская Рада» была абвестка, што для працы на з'ездзе патрэбны два вопытныя стэнаграфісты. Лёс стэнаграм невядомы...

Даволі падрабязна пісала пра з'езд газета «Беларуская Рада», камплекты нумароў якой захоўваюцца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы Санкт-Пецярбурга і ў Дзяржаўнай Расійскай бібліятэцы ў Маскве.

І Усебеларускі Кангрэс,— заключыў уступнае слова В. Скалабан,— гэта найвялікшая падзея ў гісторыі Беларусі. Публікацыю матэрыялаў Кангрэса распачнуць газета «Звязда» і «Беларускі гістарычны часопіс».

Пасля пра ацэнку з'езда германскімі вайсковымі коламі і дзеячамі Савета Народных Камісараў у Петраградзе распавёў выкладчык Беларускага гуманітарнага ліцэя Васіль Абразоўскі. Ён паведаміў, што яшчэ 14 снежня на перамовах у Брэсце Троцкі сказаў, што лёс Беларусі ніхто не мае права вырашаць без беларусаў, што будуць створаны нармальныя ўмовы для працы з'езда. А 18 снежня, калі Кангрэс ужо быў разагнаны, Троцкі заявіў на перамовах, што савецкі ўрад прызнаў паўнамоцтвы Беларусі. З гэтага вынікае, што менскія бальшавікі дзейнічалі самахоць. Пазней, калі ў Петраград пайшлі скаргі на іх дзеянні, СНК заявіў, што ён не згодны з дзеяннямі бальшавікоў Беларусі, а арганізатары разгону з'езда нібыта атрымалі строгую вымову.

З далейшых слоў В. Абразоўскага і рэплікі на яго выступленне вядомага гісторыка А. Цітова можна было зрабіць выснову, што хаця расійскія бальшавікі і гаварылі аб праве нацый на самавызначэнне, лёс беларусаў іх не цікавіў.

Была дазволена незалежнасць эстонцам, латышам, літоўцам, але не беларусам. Больш таго, яны ахвяравалі нашай зямлёй, каб хоць неяк умацаваць свае пазіцыі. А таму Усебеларускі Кангрэс, які выявіў волю нашага народа стварыць незалежную Беларусь, стаў ім косткай у горле.

На пытанне Л. Ліпеня, ці падрыхтаваны былі беларусы да такой гістарычнай падзеі, В. Абразоўскі адказаў, што Кангрэс быў надзвычай прадстаўнічым і што столькі дэлегатаў не было больш нідзе, ні на якіх з'ездах нацыянальных партый і рухаў суседніх краін.

Некаторыя ўдзельнікі «круглага стала» згаджаліся з думкай, што Кангрэс сабраў рамантыкаў. Але знаёмства з дакументамі таго часу паказвае, што беларускае нацыянальнае адраджэнне дасягнула ўжо небывалага росквіту. Сярод беларусаў акупаванай немцамі Вільні ідэя беларускай дзяржаўнасці пэўны час супадае з ідэяй магчымага ўзнаўлення саюза Беларусі і Летувы, якая гучала яшчэ ў снежні 1915 года і ў снежні 1917 года ў сумеснай дэкларацыі сацыялістычных і дэмакратычных партый Вільні. Там жа паўстаў каардынацыйны цэнтр мясцовых беларускіх арганізацый — Беларускі нацыянальны камітэт, які ладзіў сувязі з літоўскім, польскім, яўрэйскім нацыянальнымі рухамі дзеля тэрытарыяльнай непадзельнасці беларускіх земляў, ствараў першыя беларускія школы, выдаваў газету «Гоман». Ён жа падрыхтаваў Мемарандум беларускіх дэлегатаў да ўдзельнікаў III Канферэнцыі нацый у Лазане (чэрвень 1916 г.), дзе абгрунтоўваецца права беларускага народа «стацца гаспадаром на ўласнай зямлі».

Лютаўская рэвалюцыя 1917 года актывізуе беларускі палітычны рух у Менску, на франтах, дзе служылі беларусы. Ужо 25 сакавіка 1917 года на з'езд беларускіх нацыянальных арганізацый у Менск сабралася 150 прадстаўнікоў: ад Менскай рады рабочых і салдацкіх дэпутатаў, Беларускай сацыялістычнай грамады (толькі Петраградскі, пераважна рабочы, і Хельсінскі матроскі аддзелы яе налічвалі 700 сяброў), Каталіцкай дэмакратычнай партыі, Народнай дэмакратычнай партыі, Рады рабочых і салдацкіх дэпутатаў Петраграда, Петраградскіх беларусаў-народнікаў, менскага Камітэта дапамогі ахвярам вайны, беспартыйныя і сябры беларускіх гурткоў і згуртаванняў з беларускіх, расійскіх і ўкраінскіх гарадоў. Тады ўжо адвакат Чавусаў пераканаўча давёў, што беларусы ўжо выраслі і варты сваёй нацыянальнай дзяржавы. З'езд паслаў прывітальныя тэлеграмы «тым, што гніюць у акопах», Часоваму ўраду, Радзе рабочых і салдацкіх дэпутатаў, нацыянальным арганізацыям украінцаў, літвінаў ды іншых народаў.

З'езд перадаў усю выканаўчую ўладу абранаму Беларускаму нацыянальнаму камітэту. Неўзабаве на месцы гэтага камітэта паўстае Рада беларускіх партый і арганізацый, пераўтвораная затым у Вялікую беларускую Раду, якая разам з эсэраўскім Беларускім абласным камітэтам і склікала І Усебеларускі Кангрэс.

За «круглым сталом» прагучала звестка пра тое, што на румынскім фронце, дзе служылі пераважна беларусы, было сфарміравана 100-тысячнае беларускае войска, якое мелася пераправіць на Бацькаўшчыну (румынскі ўрад не даў дазволу на пераход румынскай мяжы). Як бачым, дзейнічалі рэалісты, а не летуценнікі.

Пра «рамантыкаў» гаварылі літаратуразнаўцы. Ю. Гарбінскі згадаў пра выступленне Алеся Гаруна на Кангрэсе, у якім паэт гаварыў пра неабходнасць дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Далей Ю. Гарбінскі расказаў пра ўспрыняцце Алесем Гаруном Кангрэса: у сваіх артыкулах той добра прааналізаваў вынікі гэтага высокага сходу.

Пра цесную сувязь літаратуры і гісторыі гаварыла Г. Голуб. Яна прааналізавала некаторыя творы Максіма Гарэцкага і пераканалася, што пісьменнік даў мастацкае адлюстраванне Кангрэса, ацаніў маральны і эстэтычны аспект гэтай падзеі. Яе дапоўніў У. Казбярук, які нагадаў ацэнку Гарэцкім бальшавікоў.

Галоўны рэдактар часопіса «Беларуская мінуўшчына» М. Кузняцоў падказаў, дзе шукаць звесткі і асобныя матэрыялы пра Кангрэс. Дактарант Інстытута гісторыі АН РБ Т. Процька распавяла пра лёс некаторых дэлегатаў Кангрэса. Супрацоўніца Цэнтральнага Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва РБ М. Аўсяная паведаміла пра фотадакументы, што тычацца ўдзельнікаў Кангрэса, і паказала іх прысутным. Вядомы гісторык А. Цітоў пазнаёміў удзельнікаў «круглага стала» з цікавым насценным календаром «75 гадоў абвяшчэння Беларускае Народнае Рэспублікі», на якім надрукавана невядомая грамадскасці каляровая карта Беларусі. Карта была падрыхтавана і выдадзена ў Вільні ў 1919 годзе.

**Здзіслаў СІЦЬКО.**



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# ПАЧАТКІ

*Вочна-завочная школа*

## Шаноўныя чытачы

Закончыліся заняткі вочна-завочнай школы. Мы рады, што Вы з удзячнасцю прынялі нашы ўрокі, вучыліся па іх чытаць, пісаць, размаўляць па-беларуску, знаёміліся з традыцыямі, абрадамі нашых продкаў. Спадзяёмся, што Вы не толькі атрымалі ўяўленне аб нашай роднай мове, але і далучыліся да духоўнага свету беларусаў.

Шмат хто пажадаў атрымаць даведкі аб заканчэнні школы. Для іх будуць наладжаны кансультацыі і праведзены залікі.

А тым, хто будзе працягваць вывучаць мову самастойна, прапануем спіс літаратуры, якая часткова выкарыстоўвалася для падрыхтоўкі ўрокаў. Калі ж вам будзе цяжка адшукаць пералічаныя ніжэй кніжкі, то па звычцы заглядвайце на гэтую паласу «Нашага слова»: мы распачынаем курс беларускай мовы для вайскоўцаў, дзе граматыка будзе пададзена шырэй.

Валянціна РАМАНЦЭВІЧ.

### Літаратура


1. Андрэенка У. К., Яўневіч М. С. Беларуская мова. Падручнік для 5—6 класаў школ з беларускай мовай навучання.— Мн., Народная асвета, 1986.
2. Беларуская граматыка. Ч. 1: Фаналогія і арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск.— Мн., Навука і тэхніка, 1985.
3. Блінова Э. Д. і інш. Беларуская мова. Дапаможнік для абітурыентаў.— Мн., Вышэйшая школа, 1992.
4. Бурак Л. І. Сучасная беларуская мова.— Мн., Вышэйшая школа, 1985.
5. Вярбіла У. М., Лаўрэль Я. М., Яленскі М. Г. Багата, родная ты мова... — Мн., Народная асвета, 1988.
6. Гілевіч Н. Родныя дзеці. Раман у вершах.— Мн., Мастацкая літаратура, 1985.
7. «Ехала Каляда у чырвоным вазочку...» Матэрыялы для правядзення навагодніх калядных свят.— Мн., Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей МА БССР, ТБМ АН БССР, беларускі фонд культуры, 1990.
8. Загадкі. Беларуская народная творчасць.— Мн., Навука і тэхніка, 1972.
9. Земляробчы каляндар. Абрады і звычаі.— Мн., Навука і тэхніка, 1990.
10. Кавалёва М. Ц., Падгайскі Л. П. Беларуская мова. Дапаможнік для вучняў старэйшых класаў.— Мн., Народная асвета, 1984.
11. Камароўскі Я. М., Сямашка Л. І. Сучасная беларуская мова. Фанетыка і фаналогія. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія.— Мн., Універсітэцкае, 1985.
12. Каўрус А. А. Стылістыка беларускай мовы.— Мн., Народная асвета, 1987.
13. Клышка А. Гаворым і чытаем па-беларуску.— Маладосць, 1990, № 10. 1991, № 9.
14. Коваль У. Дзяжа.— Работніца і сялянка. 1991, № 10.
15. Коваль У. Навошта ў хаце парог.— Работніца і сялянка. 1991, № 8.
16. Коваль У. Печ у хаце.— Работніца і сялянка. 1991, № 1.
17. Конюшкевич М. И. Синтаксис близкородственных языков: тождество, сходство, различие.— Мн., Университетское, 1989.
18. Кривицкий А. А., Михневич А. Е., Подлужный А. И. Белорусский язык для говорящих по-русски.— Мн., Вышэйшая школа, 1990.
19. Крук І. Пакровы.— Работніца і сялянка. 1991, № 10.
20. Крывіцкі А. А., Падлужны А. І. Фанетыка беларускай мовы.— Мн., Вышэйшая школа, 1984.
21. Кухаронак Т. Свой дварочак як вяночак.— Спадчына. 1990, № 3.
22. Лакотка А. І., Барыс С. В. Сцежкамі дзядоў.— Мн., Народная асвета, 1986.
23. Михневич А. Е. Русско-белорусский разговорник.— Мн., Вышэйшая школа, 1991.
24. Прыказкі і прымаўкі (у двух кнігах). Беларуская народная творчасць.— Мн., Навука і тэхніка, 1976.
25. Русско-белорусский словарь (в двух томах).— Мн., БелСЭ, 1982.
26. Скрыган Я. Выбраныя творы. Т. 3.— Мн., Мастацкая літаратура, 1975.
27. Тамашэвіч Т. Роднае слова і правільнасць яго выкарыстання.— Беларуская мова і літаратура ў школе. 1990, № 4.
28. Фадзеева В. Сімволіка ручніка.— Спадчына. 1990, № 2.
29. Янкоўскі Ф. М. Беларускае літаратурнае вымаўленне.— Мн., Народная асвета, 1976.


## Вучыце і далей!

Паважаная рэдакцыя «Нашага слова»! Вялікі дзякуй Вам за газету. Правільна, што змяшчаеце матэрыялы з гісторыі нашай Бацькаўшчыны, роднай беларускай мовы, культуры.

А нам, кіраўнікам курсаў па вывучэнні беларускай мовы, асабліва патрэбна рубрыка «Вочна-завочная школа» (аўтар Раманцэвіч В. К.). Удала і змястоўна пададзены асаблівасці беларускай граматыкі, гутарковая лексіка. Вельмі карысныя тэксты для цікаўных, якія знаёмяць чытачоў з абрадамі, звычаямі, традыцыямі беларускага народа. Хацелася б, каб такія матэрыялы друкаваліся і ў далейшым.

З удзячнасцю — чытачы Рэут Н. М., Ціманюк С. У., Сямёнава А. В., Канаплёва А. М., Змітровіч М. Ф. г. Менск.

●●●

## Выказваем падзяку

У нашым жыцці шмат крайнасцей. Вось чаму да прапановы вывучаць беларускую мову не ўсе настаўнікі нашай школы аднесліся з аднолькавым разуменнем. Але вось прайшлі першыя заняткі ў нашай вочна-завочнай школе, якую арганізавала Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Да нас прыйшоў чулы, сціплы чалавек — Раманцэвіч Валянціна Карлаўна. І адразу ўсе скептыкі пачалі адчуваць сябе няёмка: яны і не ўяўлялі сабе, колькі цікавага, а галоўнае — патрэбнага настаўніку можна пачуць на гэтых занятках. Аказалася, чытаючы газету "Наша слова", кожны з нас мог не толькі вывучаць беларускую мову, але і выкарыстоўваць артыкулы з яе пры падрыхтоўцы да класнай выхаваўчай гадзіны.

А хіба самому не цікава даведацца пра тыя абрады, звычаі, прыкметы, якія прыйшлі ад нашых продкаў? На старонках газеты друкуецца не толькі цікавы, пазнавальны матэрыял, але і даюцца звесткі з гісторыі нашай рэспублікі. Таксама можна пазнаёміцца з надзённымі пытаннямі грамадска-палітычнага жыцця. Шырока асвятляюцца праблемы беларусізацыі. І зараз нам становіцца бліжэй пазіцыя, якую падтрымлівае газета па вырашэнні гэтага пытання.

Прыгадваючы заняткі пад кіраўніцтвам чалавека, які ўсю душу і любоў аддае сваёй роднай мове, мы хочам аддзячыць усіх тых, хто дапамог нам па-новаму аднесціся да бацькоўскага слова: і рэдакцыю газеты «Наша слова», і Таварыства беларускай мовы, і шчырага настаўніка — Валянціну Карлаўну Раманцэвіч.

З павагай і пашанай
настаўнікі сярэдняй школы
№ 82 горада Менска
(30 подпісаў).

*Культура мовы*

## Дамова; перамовы

Беларускае слова *мова* мае шмат вытворных: *адмовіць, адмовіцца, дамовіцца, дамаўляцца, вымавіць, вымаўляць, вымаўляцца, размаўляць, прамовіць, умовіцца* і іншыя. Ад гэтых прыстаўкавых дзеясловаў і ўтварыліся (нульсуфіксным спосабам) назоўнікі *вымова, прамова, размова, умова, перамовы, дамова*... Ад слова *дамовіцца* (праз ступень — *дамоўлены)* і — *дамоўленасць*, якое «Беларуска-рускі слоўнік» 1988 г. (т. 1, с. 359) падае эквівалентам рас. *договорённость*. Рас. *договорённость* як адпаведнік беларускага *дамоўленасць* бачым і ў «Русско-белорусском словаре» 1982 г. (т. 1, с. 216). Ад гэтага дзеяслова — *дамовіцца* — утварылася і слова *дамова*, якое апошнім часам досыць шырока выкарыстоўваецца на месцы ранейшага *дагавор*, бо апошняе ўсведамляецца як пазычанне з усесаюзнага фонду грамадскай тэрміналогіі. У сучасных умовах стала актыўным і ўласнае ўтварэнне — *перамовы* замест былога ўсесаюзнага *перагаворы*. Думаецца, што гэта натуральны працэс, калі актывізуюцца ўласныя моўныя рэсурсы замест ранейшага бяздумнага пазычання, асабліва ў грамадска-палітычнай тэрміналогіі.

Слова *гаварыць*, хоць і выкарыстоўваецца (побач з *казаць, мовіць*), але назоўнікі, утвораныя ад яго прыстаўкавых формаў, амаль не выкарыстоўваюцца (параўнальна з расійскаю моваю). Іх месца займаюць утварэнні з коранем *-мов-*. Параўнаем: рас. *выговор* і бел. *вымова, сговор* і *змова, договоренность* і *дамова (дамоўленасць), договор* (условие) і *ўмова*. Таму натуральна ўспрымаюцца і *дамова, перамовы*, якія ўсё часцей выкарыстоўваюцца на месцы былых стандартаў *дагавор, перагаворы, дагаворанасць*.

## Шофер

У жывой народнай мове таго, хто кіруе машынаю, называюць *шофер*. Гэтае прыгычнае (звычнае) слова ў 60—70-ыя гады было заменена расійскім *вадзіцель* (водитель). Аднак беларускай мове ўтварэнні з *-цель* неўласцівыя. Нават пры пазычанні апошнім часам гэты суфікс замяняецца на беларускі, як гэта адбылося з словам *саіска-льнік* (рас. *соиска-тель*).

Падчас адраджэння нашай мовы варта аднавіць ранейшае слова *шóфер* (менавіта з такім націскам, а не падагнаным пад чужое *шафёр*). Дарэчы, гэтую форму — *шофер* — фіксуе і «Беларуска-рускі слоўнік» 1989 г. (т. 2, с. 714), праўда, з адсылкаю да *шафёр*. Але, паводле прадмовы слоўніка, абедзве формы маюць права на літаратурнае выкарыстанне.

Часам у друку можна сустрэць замест *шофер* слова *кіроўца* (той, хто кіруе). У гаворках, памежных з польскаю моваю, гэтае слова выкарыстоўваецца часцей. На маю думку, варта тут выкарыстаць агульнапашыранае ранейшае слова *шófер*. Яно мае і свае вытворныя: *шоферскія правы, шоферскія курсы*.

Павел СЦЯЦКО.

*сто слоў*

## Борзды

*Борзды* — адно са «старэйшых» уласна беларускіх слоў. У пісьмовыя помнікі яно трапіла ў XV стагоддзі. У Чэцях 1489 года чытаем: **«Иванъ ж *борздеи* Петра** ко гробу прібеглъ». Ведаў гэтае слова і памятаў яго ў далёкай Празе і Францішак Скарына: «Богъ такъ восхотел, абы ми **ся** то *борздо* нагодило чего **жъ** жадахъ; Благословение Божие скорить ко мзде проведного и во что *борздои* помножение его».

Як бачым, славуты палачанін ужываў таксама і слова *скорить*, каб паказаць прыспешванне дзеяння, але перавагу ўсё ж аддаваў слову *борзды*. Яно было вядома і Сымону Буднаму, які 430 гадоў таму пераклаў на беларускую мову кальвініцкі катэхізіс і надрукаваў яго ў Нясвіжы ў 1562 годзе. Трапляецца гэтае слова і ў выданнях іншых беларускіх друкароў. Ці не за народнай традыцыяй пайшлі Францішак Скарына і яго паслядоўнікі? Як паказваюць беларускія слоўнікі, *борзды* жыве ва ўсіх нашых гаворках і ў беларускай літаратурнай мове. Яно, як кажуць, так і просіцца ў нашае борадае **жыццё**.

Відаць, менавіта «борзды» трэба было б напісаць на аўтобусах, якія, паводле раскладу руху, спыняюцца не на кожным прыпынку. Спачатку гэтае слова, магчыма, дзівіла б людзей, што звыкліся бачыць словы-калекі (прыкладам, «хуткасны»), але той-сёй і ўспомніў бы, як калісь чуў: *У яго ногі борздыя — жыва дабяжыць* (в. Нова-Ельня каля Краснаполля); *Сяньні мы борзда прайшлі* ***пятнаццаць вёрст; Ідзі, толькі*** *борзда* (в. Добрае на Мсціслаўшчыне); *Так борзда праляцеў гэты год, што й не заўважылі* (в. Слонішча былога Шацкага раёна); *Як есці, дык во борзда ўсхапіўся з ложка, а як да работы, дык як нежывы пхнецца* (в. Палачаны каля Маладзечна).

**Вядомы** маскоўскі мовазнаўца А. М. Трубачоў лічыць, што беларускае слова *борзды*, як і сербска-харвацкае ***брздица***· **імклівая плынь горнага ручая**·, **узыходзіць** да праславянскага дыялектнага *бърздъ*, якое ўтварылася паралельна з праславянскім *борзъ*, ад якога пайшлі падобныя словы расійскай, украінскай, балгарскай, славацкай, чэшскай ды іншых славянскіх моваў. Верагодна, *борзды* — яшчэ адзін доказ на карысць меркавання, што беларуская мова была адметнай, асобнай мовай ужо ў праславянскі перыяд.

П. ПАШКАВЕЦ.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



У Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь ідзе опера «Князь Наваградскі» А. Бандарэнкі.

Лібрэта напісала В. Іпатава па п'есе Л. Пракопчыка, музычны кіраўнік і дырыжор М. Калядка. Рэжысёр пастаноўшчык оперы — заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі, народны артыст Рэспублікі Беларусь С. Штэйн.

НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.

**Фота Уладзіміра ШУБЫ. Белінфарм.**

*Чыталі?*

# «КОЖНЫ ЧАЛАВЕК ЗАХОЎВАЕ СВАЁ, НАЦЫЯНАЛЬНАЕ...»

Пяты нумар часопіса «Спадчына» адкрываецца рэдакцыйным інтэрв'ю з прэзідэнтам фірмы «Дайнова» Адамам Палюховічам, які на адно з пытанняў адказвае: «...Я лічу, што павінна мацавацца нацыянальная дзяржава. Павінна быць эканамічная прастора, скажам, як у Галандыі. Ёсць сваё заканадаўства, валюта, але паміж краінамі Бенілюкса і Францыяй межаў і мытняў фактычна няма. Разам з тым кожная з краін захоўвае сваё нацыянальнае: родную мову (хоць яны ўсе маглі б даўно размаўляць на ангельскай, ці на нямецкай, ці наогул на эсперанта), этнаграфічныя рысы і традыцыі, «гістарычную памяць».

У нумары чытач знойдзе публікацыю Аляксандра Вярыгі-Дарэўскага «Рускія пячаткавыя знакі. Геральдычныя тлумачэнні». Пераклаў з польскай мовы Мікола Хаўстовіч. «Рускія пачаткавыя знакі», як гаворыцца ва ўступным слове,— своеасаблівы адказ Аляксандра Вярыгі-Дарэўскага на фальсіфікацыі польскіх гісторыкаў і публіцыстаў.

«Спадчына» друкуе раздзелы з кнігі Юзафа Можы «Дэмаграфічны спад на Беларусі і Літве ў сярэдзіне XVII стагоддзя». Публікацыя суправаджаецца ілюстрацыямі, якія маюць дачыненне да вайсковай гісторыі Беларусі. Сярод іх гравюры з выявамі венгерскага наёмнага гусара ў войску Рэчы Паспалітай, украінскага казацкага палкоўніка, польскага гетмана Вялікага княства Літоўскага Януша Радзівіла, вершніка панцырнай кавалерыі войска Рэчы Паспалітай XVII стагоддзя.

Геральдычную тэму «Спадчыны» працягвае вядомы даследчык Анатоль Цітоў. На гэты раз — артыкулам «Герб места Слуцкага». Цім Мазырэц знаёміць з узнагародамі Беларусі. У адным радзе — і ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР і ордэн «Жалезны Крыж Заслугі» (часоў Другой сусветнай вайны).

Пад рубрыкай «Мартыралог» заканчваецца публікацыя А. Шлюбскага «Матэрыялы да крыўскае гісторапісі». Аляксандр Гужалоўскі, цытуючы адпаведныя дакументы, расказвае пра тое, як ужо пры Савецкай уладзе рабавалі беларускія музеі.

У раздзеле «Даследаванні і меркаванні» — пачатак артыкула англійскага беларусіста Гая Пікарда «Алегарычная геральдыка Францішка Скарыны і кароткі дапаможнік па беларускай геральдыцы». Пяты нумар «Спадчыны» багаты і на іншыя цікавыя публікацыі.

**Ганна ЦІТАЎКА.**

*Новыя кнігі*

# Адважыліся, нарэшце!

*Беларуская мастацкая кніга для дзяцей... Што і казаць, у масе твораў пра забойствы і секс, выдадзеных і шмат разоў перавыдадзеных на расійскай мове ў шыкоўных вокладках, раскошным мастацкім афармленні, ды сярод іншых вульгарных ці нізкапробных друкаваных матэрыялаў яна, падчарка, шматпакутная і цярплівая наша Папялушка, апынулася ў вартым жалю стане.*

• • •

Гаварыць даводзіцца ўжо не пра яе вопратку, яе непрэстыжны выгляд (некаляровыя ці проста няякасныя малюнкі, танюткія вокладкі і да т. п.), а ўвогуле пра сімвалічную прысутнасць у кніжным свеце ў рынкавых варунках, калі мець на ўвазе дзейнасць дзяржаўных выдавецтваў. А іх рэдакцыі, падобна, пачынаюць дыхаць на ладан, прынамсі, некаторыя. Даволі непрыемную навіну давялося пачуць ад аднаго з кіраўнікоў выдавецтва «Юнацтва» Уладзіміра Карызны: тут спынілі прыём рукапісаў ад пісьменнікаў,— маўляў, адно гатовых карэктур перанесена з мінулых гадоў столькі, што хопіць не на адзін год наперад. Праўда, падобнай заявы афіцыйна выдавецтва не робіць. І ўсё ж сімптом трывожны. Фактычная паралізаванасць дзейнасці выдавецтва, спецыялізаванага цалкам на выпуску дзіцячае кнігі,— страшны парадокс. Адсюль ідзе відавочная шкода беларускаму Адраджэнню. Якраз цяпер, як ніколі раней, дзіцячым садкам і школам не стае беларускіх выданняў. І варта толькі таму ж «Юнацтву» выдаць больш-менш прыстойную мастацкую кнігу, як яе ўмомант разбіраюць пакупнікі, няхай і цэны падскочылі. Бо, хоць і нерашуча, рухаецца беларусізацыя. Чаму ж тады становіцца рэдкаснай з'яваю выпуск такіх кніжак? І чаму тыражы гэтых выданняў разлічаны колькасна на жыхароў аднаго сельсавета, а не рэспублікі? І дзе ж тая, абяцаная падтрымка дзяржаўная? І дзе ўвогуле культурная праграма дзяржавы?

Сярод такіх набалелых пытанняў хвалявала і хвалюе мяне яшчэ адно: чаму дзяржаўныя кнігавыдавецкія структуры не могуць ці не хочуць актыўна спрыяць працэсу нацыянальнага Адраджэння, чаму «дрэмлюць» выдаўцы-камерсанты і не здабываюць прыбытак на дэфіцытнай прадукцыі, скажам так, спрыяючы хоць бы ўскосна такому нялёгкаму ажыццяўленню беларускай ідэі? Зрэшты, чаму ўскосна? Хіба ў колах камерсантаў няма свядомых беларусаў? Ёсць яны, людзі, зацікаўленыя ў тым, каб новая Беларусь жыла багатым, паўнакроўным жыццём, гадуючы духоўна паўнацэнных дзяцей і забяспечваючы сабе добрую будучыню ў супольнасці народаў.

Прадоўжым гаворку пра выданне цікавых і карысных кніжак для дзяцей на беларускай мове па цэнах і такімі накладамі, якія гарантуюць вытворцам прыбытак. І вось тут можна перавесці дыханне... Нарэшце, крок такі зроблены! У пакупніка (значыць — і ў чытача) у руках «Заклятыя скарбы» — беларускія легенды і паданні, укладзеныя і пераказаныя для дзяцей Уладзімірам Ягоўдзікам, ілюстраваныя Аляксеем Навіцкім. Выдала кнігу фірма «ІТЭКС», надрукаваўшы яе на Менскай картаграфічнай фабрыцы. Наклад — 200 000 паасобнікаў. Цана — 55 рублёў.

Я грошы чужыя лічыць не прывык. Аднак мяркую, што фірма, якая адважылася зрабіць для Бацькаўшчыны карысную справу, не вельмі рызыкавала. І яна будзе ў выйгрышы. Яшчэ не так даўно глядзеў я скептычна на кніжныя цэны, што перавышаюць не толькі паўсотні, але і пару дзесяткаў рублёў. Сёння ж названая цана кнігі ўжо невысокая (бяда ў нас іншая — нізкі жыццёвы ўзровень), цана гэтае кнігі раўняецца кошту двух кілаграмаў яблыкаў або трох-чатырох боханаў хлеба. Падобныя суадносіны кошту хлеба духоўнага і жытняга былі нярэдка.

Тым часам возьмем на заметку: адбыўся доўгачаканы паварот у кнігавыдавецкай справе Рэспублікі Беларусь, і пачаўся ён з выхаду на арбіту народных легендаў і паданняў. Прыкмета добрая. І добры, вядома, прыклад.

Можа, хіба такому выданню не абавязкова было надаваць чыста прыгодніцкі выгляд. Што да мастацкага афармлення, скажу адно: цёмныя сілы паказаны каларытна, ды, здаецца, аж зашмат усялякіх д'яблаў ды іншых пачвараў і нядужа вабныя вобразы красы і мудрасці. Але ў мастака, пэўна, свае аргументы, як і сваё прачытанне народных твораў.

Сёння для нас галоўнае тое, што і ва ўмовах рынку, даволі жорсткіх, мы ўбачылі мажлівасць даносіць да юнага чытача сапраўднае мастацкае слова і, дзякуючы яму, фарміраваць здаровыя эстэтычныя густы, развіваць уяўленне і фантазію дзяцей.

Хочацца спадзявацца, што фірма «ІТЭКС» ды іншыя змогуць хоць час ад часу радаваць чытачоў хараша выдадзенымі лепшымі творамі нашых паэтаў, празаікаў, драматургаў, беларускіх народных казак. Ды і легенды, паданні далёка не ўсе вычарпаны. Можна было б, напрыклад, скласці і выдаць легенды і паданні пра нашыя гарады і вёскі, рэкі і азёры, пра значныя падзеі.

Дарэчы будзе тут закрануць, хоць бегла, яшчэ адну блізкую праблему: выпуск вялікімі накладамі для дашкольнікаў і дзяцей малодшага школьнага ўзросту кніжак-цацак, кніжак-раскладанак. Не сакрэт, што яны друкуюцца на адыходах паперы і кардону, не патрабуюць значных выдаткаў. Аўтары тэкстаў і малюнкаў заўсёды знойдуцца (і нават будзе выбар самых вартых твораў), была б толькі ваша зацікаўленасць, шаноўныя выдаўцы-камерсанты. Дык мо закасаем рукавы і возьмемся за працу, стваральную, высакародную, хай нават за яе не хутка падзякуюць.

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

# «ТЭАТРАЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ»

**У кіёсках з'явіўся апошні нумар за 1992 год часопіса «Тэатральная Беларусь».**

**Ён адкрываецца п'есай Міхася Яроша «Дробязі», якая была напісана яшчэ ў 1957 годзе. Ва ўступным слове да твора Уладзімір Дамашэвіч піша: «П'еса перадае дух таго часу, перадае атмасферу студэнцкага жыцця, яна мае права на тое, каб быць прачытанай шырокім чытачом, каб нават быць пастаўленай — калі не на прафесійнай сцэне, то на аматарскай». Шкада, што М. Ярош не дажыў да гэтага часу.**

**«Жыву на ўскрайку Мінска. Таму свята Незалежнасці Рэспублікі бачу ў некалькіх вымярэннях. Не ехала я на Кастрычніцкія святы і на Май у горад: адзначала, як у нас звыклі «штампіць» журналісты, «працоўнай вахтай»: дарывалася хоць на якую гадзінку да пісьмовага стала. А тут — спяшаюся ў горад, у філармонію...» — так пачынаецца артыкул Юсты Беларускі «Адраджэнне».**

**Ала Савіцкая ў палемічных нататках «Што ў крытыцы табе маёй?» разважае над публікацыямі пра тэатр і рэцэнзіямі на некаторыя спектаклі. Яна адзначае, што «з боку крытыкі чуваць пакуль адно: павінны ставіць — і ўсё! Пра тое, што ставіць і як пастаўлена, размова не заходзіць. Перш-наперш важны факт пастаноўкі. Яе наяўнасць альбо адсутнасць ператвараецца ў крытэрый творчасці... Рэдкія выпадкі, калі спектакль разглядаецца хоць бы на яго прафесійным узроўні. Амаль скрозь — павучанні, дыдактыка, бясконцая надзённасць, ад якіх сцэнічны твор яшчэ далей адыходзіць ад мастацтва».**

**«Тэатральная Беларусь» прапануе чытачам дыялог Таццяны Мушынскай з заслужаным дзеячам мастацтваў Рэспублікі Беларусь рэжысёрам-пастаноўшчыкам Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Маргарытай Ізворскай-Елізар'евай. Ён называецца «Усё пачынаецца з партытуры».**

**Друкуецца рэпартаж «Прарока нам Бог дараваў на Купалле...» Алеся Марціновіча з рэспубліканскага паэтычнага свята «Жыві, Беларусь!» у Вязынцы.**

**Зоя Лысенка знаёміць з новым тэатральным калектывам музычных асацыяцый «Метамарфозы», які стварыў Валерый Седранок, выкладчык кафедры рэжысуры масавых свят Менскага інстытута культуры.**

**Чытачоў чакаюць артыкулы Р. Часновай «Марыкс», Н. Швяцовай «Кіеўскія сустрэчы», Я. Адамовіча «Тураўскае Купалле» і шмат іншай інфармацыі з тэатральнага жыцця Беларусі.**

**В. А.**

Грошы — на вецер



## *Не да культуры*

Больш двух мільёнаў аддала дзяржава на рамонт Дома культуры ў Горках. Не прайшло і года, а ў будынку ўжо адвалілася штукатурка, іржавее дарагое абсталяванне.

НА ЗДЫМКУ: невясёлыя думкі ў загадчыка аддзела культуры мясцовага райвыканкама Г. Макеева. У пустым халодным памяшканні Дома культуры гуляе вецер.

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ. Белінфарм.**



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Томас Мур (1779—1852) быў першым паэтам Ірландыі новага часу, творчасць якога — адметная сваім глыбокім лірызмам — зрабілася вядомай усёй Еўропе.

Томас МУР

## Як я люблю...

Як я люблю апошніх прамянёў
Часіну, іх знікненыя ў моры міг;
І мроіцца былое зноў і зноў,
І вечара чуцён апошні ўздых.

Гляджу, як прамяні па моры тым
Плывуць на захад вогненнай ракой:
Хачу прайсці я шляхам залатым
Да вечнай выспы, дзе жыве Спакой.

## Вечаровыя званы

(Званы Санкт-Пецярбурга)

О, вечаровыя званы! —
Як шмат вызваньваюць яны
Пра родны кут, пра даўні час,
Як я іх чуў апошні раз.

Няма ўжо ўсцешнай той пары —
І многія мае сябры
З-пад надмагільных курганоў
Ужо не чуюць тых званоў.

Памру і я — надыдзе час:
Спеў новых песняроў пра вас
Зноў загучыць, як з даўніны,
О, вечаровыя званы!

## Любоў беражыце...

Любоў беражыце. Хай знікне і след
Нячуласці знобкай, якой повен свет.
Калі спрэс бязвер'е пануе ў жыцці —
Любові адной толькі вечна цвісці.

Хай лепей, прачнуўшыся, плача любоў,
Чым дрэмле ці спіць сном юначых гадоў,
Бо смерць за тым сном не забудзе прыйсці:
Любові заступіць дарогу ў жыцці.

Хай Час наганяе свае аблакі:
Цень ляжа над намі, як саван цяжкі —
А ўсё-ткі пасля пасвятлее ў жыцці:
Любоў, да канца нам пяшчотна свяці.

*Пераклад з англійскай*
*Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.*

*Фантастыка*

*Роберт ШЭКЛІ*

# БІТВА

Вярхоўны галоўнакамандуючы Фетэрэр імкліва ўвайшоў у апаратыўную залу і грымнуў:

— Вольна!

Тры яго генералы паслухмяна сталі па каманздзе вольна.

Фетэрэр зірнуў на гадзіннік і сказаў:

— Лішняга часу ў нас няма. Паўторым яшчэ раз напярэдні план бою.

Ён падышоў да сцяны і разгарнуў гіганцкую карту Сахары.

— Паводле найбольш дакладнай тэалагічнай інфармацыі, якую мы атрымалі, Сатана мае намер вывесці свае сілы на паверхню вось у гэтым пункце.— Ён тыцнуў у карту тоўстым пальцам.— У першай лініі будуць д'яблы, дэманы, сукубы, інкубы і ўсе іншыя гэтага ж класа. Правым флангам камандуе Веліял, левым — Вельзевул. Яго Сатанінская Вялікасць узначаліць цэнтр.

— Папахвае сярэднявеччам,— прамармытаў генерал Дэл.

Увайшоў ад'ютант генерала Фетэрэра. Яго твар свяціўся шчасцем пры думцы пра Абяцанае Зверху.

— Сэр,— сказаў ён,— там зноў святар.

— Зрабіце ласку стаць смірна,— строга сказаў Фетэрэр.— Нам яшчэ трэба будзе біцца і перамагчы.

— Слухаю, сэр,— адказаў ад'ютант і выцягнуўся. Радасць на яго твары крышку прыгасла.

— Святар? Гм...— вярхоўны галоўнакамандуючы Фетэрэр задуменна паварушыў пальцамі.

Пасля Прышэсця, пасля таго як стала вядома, што наперадзе Апошняя Бітва, працаўнікі на сусветнай ніве рэлігіі зрабіліся сапраўднай карай боскай. Яны перасталі грызціся паміж сабою, што само па сабе было пахвальна, але, апрача таго, яны спрабавалі забраць у свае рукі вядзенне вайны.

— Ганіце яго,— сказаў Фетэрэр.— Ён жа ведае, што мы распрацоўваем план Армагедона.

— Слухаю, сэр,— сказаў ад'ютант, аддаў чэсць, па-вайсковаму павярнуўся і выйшаў, крочачы, як на парадзе.

— Пойдзем далей,— сказаў вярхоўны галоўнакамандуючы Фетэрэр.— У другім эшалоне Сатаны будуць уваскрэшаныя грэшнікі і размаітыя стыхійныя сілы зла. У ролі яго бамбардзіровачнай авіяцыі выступяць анёлы, што ў свой час былі зрынуты з неба. Іх сустрэнуць робатыперахватчыкі Дэла.

Генерал Дэл панура ўсміхнуўся.

— Пасля ўстанаўлення кантакту з праціўнікам аўтаматычныя танкавыя карпусы Мак-Фі рушаць на яго цэнтр пры падтрымцы робатапяхоты генерала Онгіна,— гаварыў далей Фетэрэр.— Дэл будзе кіраваць вадароднай бамбардзіроўкай тылоў, якая павінна быць праведзена максімальна масіравана. Я па меры неабходнасці буду ў розных пунктах уводзіць у бой механізаваную кавалерыю.

Вярнуўся ад'ютант і выцягнуўся па стойцы смірна.

— Сэр,— сказаў ён,— святар адмовіўся ісці адсюль. Ён кажа, што павінен абавязкова пагаварыць з вамі.

Вярхоўны галоўнакамандуючы Фетэрэр хацеў быў сказаць «не», але завагаўся. Ён успомніў, што гэта ўсё-такі Апошняя Бітва і што працаўнікі на ніве рэлігіі сапраўды маюць да гэтага бою нейкія адносіны. І ён рашыў выкраіць святару пяць мінут.

— Папрасіце яго зайсці,— сказаў ён.

Святар быў адзеты ў звычайны пінжак і штаны, якія сведчылі, што ён з'явіўся сюды не прадстаўніком нейкай канкрэтнай рэлігіі. Яго стомлены твар дыхаў рашучасцю.

— Генерал,— сказаў ён,— я прыйшоў да вас як прадстаўнік усіх працаўнікоў на сусветнай ніве рэлігіі — патэраў, равінаў, мул, пастараў і ўсіх іншых. Мы просім вашага дазволу, генерал, прыняць удзел у Бітве Божай.

Вярхоўны галоўнакамандуючы Фетэрэр нервова забарабаніў пальцамі па сцяне. Ён лічыў бы за лепшае захаваць добрыя адносіны з гэтай браціяй.

— Зразумейце маё становішча,— тужліва прамовіў Фетэрэр,— я — генерал, мне трэба будзе кіраваць бітвай...

— Ды гэта ж Апошняя Бітва,— сказаў святар.— У ёй трэба ўдзельнічаць людзям.

— Але ж яны ў ёй і ўдзельнічаюць,— адказаў Фетэрэр.— Цераз сваіх прадстаўнікоў, вайскоўцаў.

Святар паглядзеў на яго. Фетэрэр гаварыў далей:

— Вы ж не хочаце, каб гэтая бітва была прайграна, хіба не так? Каб перамог Сатана?

— Зразумела, не,— прамармытаў святар.

— У такім разе мы не маем права рызыкаваць,— заявіў Фетэрэр.— Усе ўрады згадзіліся з гэтым, праўда? Так, вядома, было б вельмі прыемна ўвесці ў Армагедон масіраваныя сілы чалавецтва. Даволі сімвалічна. Але ці маглі б мы ў гэтым выпадку быць упэўнены ў перамозе?

Святар паспрабаваў штосьці запярэчыць, але Фетэрэр паспешліва загаварыў зноў:

— Нам жа невядома сіла сатанінскіх полчышчаў. Мы павінны кінуць у бой усё лепшае, што ў нас ёсць. А гэта азначае — аўтаматычныя арміі, робаты-перахватчыкі, робаты-танкі, вадародныя бомбы.

Святар меў вельмі разгублены выгляд.

— Але ў гэтым ёсць штосьці амаральнае,— сказаў ён.— Няўжо вы не маглі б уключыць у свае планы людзей?

— Баюся, гэта немагчыма,— сказаў Фетэрэр.

— Шмат хто,— сурова прамовіў святар,— лічыць, што было памылкай даручыць Апошнюю Бітву вайскоўцам.

— Прабачце,— бадзёра запярэчыў Фетэрэр,— гэта паражэнчая балбатня. З вашага дазволу... — Ён паказаў на дзверы, і святар засмучана выйшаў.

— Ох, ужо гэтыя цывільныя,— уздыхнуў Фетэрэр.— Такім чынам, панове, вашы войскі гатовы?

— Мы гатовы біцца за Яго,— горача прамовіў генерал Мак-Фі.— Я магу паручыцца за кожнага аўтаматычнага салдата пад маім началам. Іх метал зіхаціць, іхнія рэле абноўлены, акумулятары поўнасцю зараджаны. Сэр, яны літаральна рвуцца ў бой.

Генерал Онгін выйшаў з задумення.

— Наземныя войскі гатовы, сэр.

— Паветраныя сілы гатовы,— сказаў генерал Дэл.

— Цудоўна,— падвёў вынікі генерал Фетэрэр.— Астатнія падрыхтаванні закончаны. Тэлевізійная перадача для насельніцтва ўсяго зямнога шара забяспечана. Ніхто — ні багаты, ні бедны — не будзе пазбаўлены відовішча Апошняй Бітвы.

— А пасля бітвы...— пачаў генерал Онгін і змоўк, як толькі глянуў на Фетэрэра.

Той насупіўся. Ён не ведаў, што павінна адбыцца пасля бою. Гэтым, відаць, зоймуцца рэлігійныя ўстановы.

І вось прыйшоў час.

У прыгожых баявых уборах сілы Пекла рухаліся па пустыні. Верашчалі пякельныя флейты, бухкалі пустацелыя барабаны — пасылалі наперад прывіднае воінства. Уздымаючы клубы пяску, танкі-аўтаматы генерала Мак-Фі рынуліся на сатанінскага ворага. І тут жа бамбардзіроўшчыкі-аўтаматы Дэла з віскатам пранесліся ў вышыні, звальваючы бомбы на легіёны пагіблаых душ. Фетэрэр мужна кідаў у бой сваю механічную кавалерыю. У гэты хаос рушыла робатапяхота Онгіна, і метал зрабіў усё.

Орды пякельных сіл уразаліся ў строй, раздзіраючы на шматкі танкі і робаты. Аўтаматычныя механізмы паміралі, мужна абараняючы шматок пяску. Бамбардзіроўшчыкі Дэла падалі з неба пад ударамі анёлаў цемры, якіх вёў Мархозій; яго крылы закручвалі паветра ў тайфуны.

Пашкуматаная шарэнга робатаў стрымлівала націск гіганцкіх злых духаў, якія крышылі іх і наганялі жах у сэрцы тэлегледачоў ва ўсім свеце.

Астарот пракрычаў загад, і Бегемот цяжка рушыў у атаку. Веліял на чале кліна д'яблаў навальіўся на левы фланг генерала Фетэрэра. Метал віскатаў, электроны вылі ў агоніі, бо не вытрымлівалі гэтага націску.

За тысячу міль ад фронту генерал Фетэрэр выцер дрыготкай рукою спацелы лоб, але ўсё гэтак жа спакойна і рашуча аддаваў распараджэнні, якія кнопкі націснуць і якія ручкі павярнуць. І цудоўныя арміі не падвялі яго. Смяротна пашкоджаныя робаты падымаліся на ногі і не пераставалі змагацца. Разбітыя, знявечаныя, разнесеныя на шматкі выючымі д'ябламі, робаты ўсё-такі ўтрымалі сваю пазіцыю. Тут у контратаку быў кінуты Пяты корпус ветэранаў, і варожы фронт быў прарваны.

За тысячу міль ад лініі генералы кіравалі праследаваннем.

— Бітва выйграна,— прашаптаў вярхоўны галоўнакамандуючы Фетэрэр і адарваўся ад тэлевізара.— Віншую, панове.

Генералы стомлена ўсміхнуліся.

Яны зірнулі адзін на аднаго і радасна загаланілі. Армагедон быў выйграны, і сілы Сатаны пераможаны.

Але на іх тэлевізійных экранах штосьці адбывалася.

— Як! Гэта ж... гэта...— пачаў генерал Мак-Фі і змоўк.

Бо па полі бою паміж грудамі знявечанага, патрушчанага металу велічна ступала Ласка Боская.

Генералы маўчалі.

Ласка Боская дакранулася да знявечанага робата.

І робаты заварушыліся па ўсёй пустыні, якая ўсё яшчэ курэла і дымілася пасля бою. Пакарабачаныя, абгарэлыя, аплаўленыя кавалкі металу абнаўляліся.

— Мак-Фі,— прашаптаў вярхоўны галоўнакамандуючы Фетэрэр.— Націсніце на што-небудзь,— няхай яны хоць укленчаць, ці што.

Генерал націснуў, але дыстанцыйнае кіраванне не працавала.

А робаты ўжо ўзнімаліся на неба. Іх акружылі Анёлы боскія, і робаты-танкі, робатапяхота, аўтаматычныя бамбардзіроўшчыкі ўзнімаліся, узносіліся ўсё вышэй і вышэй.

— Ён бярэ іх жывцом у рай! — істэрычна ўсклікнуў Онгін.— Ён бярэ ў рай робатаў!

— Адбылася памылка,— сказаў Фетэрэр.— Хутчэй! Пашліце афіцэра сувязі... Не, мы паедзем самі.

Як бачыш падалі самалёт, і яны памчаліся да поля бітвы. Але ўжо было позна: Армагедон скончыўся, робаты зніклі, і пан Бог са сваім воінствам вярнуўся да сябе дадому.

**Пераклаў Сяргей МІХАЛЬЧУК.**



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Ад роднай зямлі

# Вось такі каравай...

***У Галандыю, на Дні культуры Беларусі, майстар пякарскай скульптуры Валянціна Уласік была запрошана разам са знакамітымі «Крупіцкімі музыкамі». З першага свайго замежнага падарожжа везла дадому безліч уражанняў, а ў чамадане — процьму ўсялякіх пакуначкаў, бляшаначак: разнаколерныя харчовыя фарбы для печыва.***

— Ну, цяпер я кум каралю, у любыя прыдумкі пускацца можна,— узрадавана казала яна.— А то раней бурачок, морква ды ягады —вось і ўсе мае фарбы... Ведаеце, чым я была надта ўражана ў Галандыі? У крамах усяго, і кандытарскіх вырабаў таксама — вочы разбягаюцца, думала, на маю самаробную выпечку ніхто і глянуць не схоча. Ды апынулася ў цэнтры ўвагі — там, аказваецца, ручная работа дужа цэніцца.

Яшчэ б не цанілася, калі амаль кожны ласунак з яе рук — і незвычайная смаката, і непаўторнае мастацтва, свята вачэй і душы. Бо перад намі не проста здатная гаспадыня — сапраўдны скульптар з найтанчэйшым густам і багаццем фантазіі, аўтар шэдэўраў пластыкі з... цеста.

Мастацтва гэтае даступна многім, яно ідзе ад самога жыцця, народнага побыту, імкнення аздобіць яго з дапамогай самых звычайных, падручных сродкаў. І для Валянціны Канстанцінаўны, тады яшчэ дзяўчынкі, кветка прызнання ўзышла і распусцілася ў простай, нават беднай сялянскай хаце, дзе часцяком гасцявала нішчымніца, а руплівая маці мудрагеліла-варажыла ля печы, каб з якой жменькі мукі спячы дзецям ласунак.

Маленькая Валя не адыходзіла ад маці, прыглядалася-прымяркоўвалася: як гэта, амаль з нічога выходзяць дзівосныя прысмакі? Хутка сама стала прыдумляць нешта сваё, не паўтараючы маці-настаўніцу. Пачалі з-пад яе рукі вылятаць залацістыя духмяныя жаваранкі, крылатыя матылі, «расці» крамяністыя баравічкі...

Калі ўжо крыху разжыліся, спякла Валя свой першы, самы памятны каравай. Удаўся дык удаўся: як сонейка ў вянку з калосся, рамонкаў ды васількоў. Ажно ўся вуліца збеглася дзівіцца.

З тае пары і пайшло і паехала: вяселле ў каго, радзіны-імяніны ці проста госці ў хату, суседзі — да яе:

— Выручай, Валечка, як ты, ніхто так стол не ўпрыгожыць.

А яна і рада старацца, якой гаспадыні не мёдам па сэрцы, калі яе ўмельства заўважана і ўхвалена?

Зараз пякарскае майстэрства бухгалтара на пенсіі вядаюць не толькі сваякі ды суседзі. У клубе народнай творчасці «Пралеска» пры Стаўбцоўскім раённым Доме культуры яна перадае свой вопыт маладым гаспадыням. У мясцовым краязнаўчым музеі яе творам адведзены ганаровы кут. На розных выставах абласнога і рэспубліканскага маштабу, а цяпер і ў замежжы мастацкая выпечка Валянціны Уласік робіць, без перабольшання, фурор.



На адной з выстаў у беларускай сталіцы, дзе паказвалі плён сваёй працы народныя ўмельцы, наведвальнікі ўзялі яе літаральна ў палон. Ну як жа не дзівіцца, не распытваць сакрэты чараўніцтва: за акном снег, зіма, а на бялюткім абрусе — казкі шчодрага лета. Спакуслівa чырванеюць у кошыку, бы толькі з лесу, спелыя суніцы. Здаецца, струменяць чароўны пах свежыя ружы, цвітуць не адцвітаючь пыхлівыя макі. А пірагі, тарты, караваі, упрыгожаныя кветкамі і ягадамі, жалудамі і птушкамі — гэта ж найскладанейшыя тэматычныя кампазіцыі, якімі можна любавацца бясконца: «Добрай раніцы», «З днём нараджэння», «Дары баравыя», «Расла ў лесе елачка»...

Асаблівае захапленне выклікае філігранна выкананая ўсім знаёмая сцэнка «Раніца ў нядзельку» паводле паэмы народнага песняра Якуба Коласа, земляка Валянціны Канстанцінаўны.

Памятаеце:

***Дзень быў святы. Яшчэ ад рання***
***Блінцы пякліся на сняданне...***

Яна ведала гэтыя класічныя радкі з дзяцінства і, увасабляючы іх у падуладным ёй майстэрстве, старалася не ўпусціць ніводнай дэталі. Ды і ў іх колішняй хаце гэтак жа было: маці завіхаецца ля печы, дзеці чакаюць — не дачакаюцца прысмакаў з пылу-жару... Звычайная побытавая карцінка ўся асветлена цеплынёй і пяшчотай, пачуццём мяккага гумару.

Так у яе заўсёды: ад роднае зямлі, ад жытнёвых палёў і пошуму бароў, ад тонкай назіральнасці нараджаюцца творы пякарскай скульптуры. Хлеб, любоў і фантазія злучаюцца ў зямны і паэтычны дар ад сэрца. Бо вечнае жаданне майстрыхі — радаваць людзей нечым новым, нечаканым.

...Прыходзіць раніца ў суботу ці нядзельку — разам з Валянцінай Канстанцінаўнай на кухні ля печы шчыруюць, аж белы пыл ад мукі курыцца, дочкі, унучкі і нават... зяці.

— Ого, памочнікі хоць куды,— цвіце майстрыха.— Часам такое змікіцяць, што і сама не даўмеюся...

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# Беларусь мая!

*Словы С. СОКАЛАВА-ВОЮША.*




*Аксамітны летні вечар*
*ахінуў зямлю.*
*Я вазёрную сінечу*
*вуснамі лаўлю.*
*Моўчкі слухаю у росах*
*песню салаўя.*
*Над маім лунае лёсам*
*Беларусь мая!*
*А над лесам, над сусветам*
*выпрастаў крыло*
*залацісты човен-ветах,*
*зорнае вясло.*
*Стан дзявочы Белай вежы,*
*подых ручая,*
*Я адной табе належу,*
*Беларусь мая!*

*Там, дзе гойдае вятрыска*
*залаты мурог,*
*паўставалі камяніскі*
*ля тваіх дарог.*
*Чырванее ранні золак,*
*рэха у гаях,*
*а ў грудзях тваіх асколак,*
*Беларусь мая!*
*Мне краёў чужых не трэба,*
*як не варажы.*
*Не хачу чужога неба,*
*радасцяў чужых.*
*Бо чужына сэрца джаліць,*
*ціснe, як змяя.*
*Бо гукае з дальніх даляў*
*Беларусь мая!*
*Беларусь мая!*
*Беларусь мая!..*

# Народная лякарня

*Навакольнае асяроддзе і працяглaсць жыцця*

Народная медыцына ўзнікла на аснове выкарыстання розных лекавых і прафілактычных сродкаў, створаных самой прыродай, і ў выніку асэнсавання таго факта, што арганізм чалавека павінен прыстасоўвацца да ўмоў клімату, хуткіх змен у надвор'і: гарачыні і холаду, павышэння і паніжэння атмасфернага ціску, вільготнасці і іанізацыі паветра. У кожным выпадку такое прыстасаванне да ўмоў клімату выражаецца ў змяненні цыркуляцыі крыві. Скура павінна то аддаваць цяпло, то захоўваць яго. Усё гэта дае вялікую нагрузку сэрцу і крывяносным сасудам.

У народнай медыцыне існуюць спосабы, як дапамагаць сэрцу, сасудам і кровазабеспячэнню арганізма. Так, пазбягаючы ўмоў, якія выклікаюць сардэчныя прыступы, можна прадоўжыць жыццё сэрца, паколькі яно не будзе хутка зношвацца. Ваша сэрца — матор, які накіроўвае работу ўсяго арганізма. Мышцы цела, уключаючы сардэчную, выкарыстоўваюць цукар. І для сэрца зусім не ўсё роўна, падаецца яму натуральны цукар, што ўтрымліваецца ў мёдзе, ці ачышчаны ў працэсе перапрацоўкі. Вы можаце ашчаджаць сваё сэрца, ужываючы замест цукру мёд. Колькасць цукру ў вашай крыві — адна чайная лыжачка. Колькасць гэта мае жыццёва важнае значэнне, пры яе зніжэнні напалову чалавек трацiць свядомасць. Павелічэнне гэтай колькасці (больш за адну чайную лыжачку) можа выклікаць дыябет. Зразумела, што неабходна звяртаць увагу на сваё харчаванне, каб задаволіць патрэбу арганізма ў цукры. У мёдзе ўтрымліваецца два віды цукру — дэкстроза і левулёза. Пры ўжыванні мёду дэкстроза хутка ўсмоктваецца ў кроў, левулёза ж падтрымлівае пастаянную канцэнтрацыю цукру ў крыві, што папярэджвае празмернае павелічэнне яго канцэнтрацыі (цукар не будзе засвойвацца арганізмам).

*«Без карысці і мёд горкі»*
*«Дзе стан, там і сіла»*
*«Здароўе лёгка страціць ды трудна набыць»*
*«Здароўе мілейшае за грошы»*

*Са збору Ф. ЯНКОЎСКАГА.*

## Пародыі

*Георгій ЮРЧАНКА*

# Трыялет матылька

Супачыў матылёк-аднадзёнка
На маіх спрацаваных руках.

Зміцрок МАРОЗАЎ

Ляцеў аднекуль матылёк.
Каб на рукаў мой апусціцца.
Ці то пад'есці, ці напіцца
Ляцеў аднекуль матылёк.
Хацеў як лепей прымасціцца:
Ягоны шлях пралёг здалёк.
Ляцеў аднекуль матылёк,
Каб на рукаў мой апусціцца.

## Афарызмы

*Аляксандр БАЛЯК*

— *Колькі незадаволеных на душу насельніцтва?*
— *Толькі адзін!*

*Хто не мае выбару, мае выбары.*

*Яго не выгналі. Наадварот, адабралі пашпарт.*

*Зноў надышоў іншы час. Не маем-такі шчасця.*

*У гэтай краіне няма дысідэнтаў. Усе ў замежжы.*

*Я прыхільнік дыялогу раўнапраўных. Вока за вока, зуб за зуб.*

*Будзем выбіраць, пакуль ім не абрыдне. Вечна ж і яны не змогуць.*

*Згодзен, вёў вас я, але заблукалі мы разам.*

*Увесь час вяртаемся на зыходнае, але асноўны напрамак у нас добры.*

*Не магу быць вашай ахвяраю. Забіце, не магу!*

*Я не зневажаў гэтай асобы. Мне нават падумаць пра яе гідка.*

*Мы мусілі зрабіць яго богам. Інакш яму нельга было верыць.*

***Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.***

Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры рэдакцыйнай калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.
Адказны сакратар Віктар Шніп.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Індэкс 63865.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Наклад 8457 паасобнікаў.
Зак. 255.

Падпісана ў друк 18.1.1993 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012